«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (193), верасень 2022 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 9 (193) (верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест





# Руская мова ўкрала будучыню беларускай літаратуры



Олександр ІРВАНЕЦЬ, Україна

Руская мова сваім існаваннем учыніла непапраўную шкоду нашай суседняй дзяржаве. Той, што называецца абрэвіятурай РБ. Той, дзе дзве дзяржаўныя і, відаць, (на паперы) раўнапраўныя мовы: RU і BY.

Ступень русіфікацыі ў гэтай краіне надзвычай высокая, значна вышэйшая, чым ва Украіне, нават да 24 лютага. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з 1995 года (першы год прэзідэнцкага праўлення!) дзяржаўнымі былі прызнаны дзве мовы: беларуская і руская. І, канечне, мацнейшая мова зжэрла слабейшую — гэтак жа, як спрабавала зжэрці ўкраінскую, толькі значна больш удала. Згадваю, як, засяліўшыся ў мінскі гатэль, я звярнуўся да маладой сімпатычнай рэцэпцыяністкі па-беларуску, якой хоць і не ідэальна, але ўсё ж валодаю.

— Добры дзень! Спадарыня! Калі ласка…

— Пожалуйста, обращайтесь ко мне по-русски. Я не понимаю белорусский язык, — з нязрушным тварам адказала прыгажуня.

Тут я ўключыў увесь свой сарказм і змяніў мову зносін:

— А вы что — недавно из России приехали? А откуда именно — с Костромы аль с Вологды?..

— Я минчанка. Я здесь родилась, — гэтак жа непахісна адказала дзяўчына.

Я заткнуўся. Крыць не было чым. Беларускай мовы ў Мінску я не чуў, акрамя, вядома, аўтаматычных абвестак у метро і размоў з пісьменнікамі-патрыётамі. Некалі даўно, у сярэдзіне шасцідзясятых, Мікола Халодны нешта падобнае напісаў пра ўкраінскую мову ў тадышнім зрусіфікаваным Кіеве:

*Вигляда закордонним гостем*
*у столиці туземець Петро.*
*Поспішає сховатись в метро,*
*де немовби чекаєш когось ти.*
*Все так мудро, мов до ювілею:*
*і нема тебе, й ніби є.*
*Доживаєте Ви під землею*
*за що, мамо, життя своє?*

За апошнія два-тры дзесяцігоддзі ўкраінцам удалося пераламаць сітуацыю, і сёння Кіеў — украінамоўны горад, я гэта смела заяўляю і не прымаю пярэчанняў. У Беларусі ўсё нашмат сумней. Паўсюль пануе расейшчына…

У Рэспубліцы Беларусь жыве шмат пісьменнікаў, якія пішуць на рускай мове, на іх кнігі ёсць попыт, яны падтрымліваюцца дзяржавай. Знаёмыя ў Мінску расповядалі пра выпадкі, калі дзеці-падлеткі прасілі бацькоў-пісьменнікаў перайсці на рускую мову — бо тады можна больш зарабіць, бо аўдыторыя большая. Сярод рускамоўных пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь ёсць і лаўрэат вышэйшай літаратурнай узнагароды свету — Нобелеўскай прэміі. Святлану Алексіевіч, вядома, ведаюць у свеце, і ва Украіне яна таксама даволі шмат публікуецца.

Што ж да сапраўднай беларускай літаратуры, той, што ствараецца на беларускай мове, яна існуе, і прасунуты ўкраінскі чытач гэта добра ведае. Ва Украіне да вайны не было недахопу ні ў літаратурных імпрэзах, ні ў выданнях прыпяцкага суседа. Некаторыя маладыя беларускія паэты карысталіся папулярнасцю ў нашай краіне, якая значна перавышала іх папулярнасць на радзіме. «Беларуская беларуская літаратура» — дазволю сабе такое вызначэнне — мае добры падмурак не толькі геніяльных Багдановіча, Коласа і Купалы, але і цэлага каскаду першакласных празаікаў: Івана Мележа, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Практычна кожны з названых мною аўтараў сваімі дасягненнямі цалкам цягне на наміната, а Быкаў сваім глыбокім і скрупулёзным разуменнем вайны ў свеце і ў чалавеку заслужыў Нобелеўскую прэмію, напэўна, не менш, чым, скажам, Герта Мюлер. (Прашу прабачэння, фраў Мюлер, але я таксама чытаў і вашы творы, магу іх параўнаць.) Таксама нядаўна пайшоў з жыцця глыбокі і мудры Алесь Разанаў — шведскі паэт Тумас Транстромер, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, піша крыху не горш за Разанава.

Сённяшняя беларуская літаратура часткова выцесненая за межы краіны — многія грамадска-актыўныя творцы дзеля ўласнай бяспекі былі вымушаныя пакінуць РБ. Але яна існуе і паступова даходзіць да еўрапейскага чытача ў перакладах на іншыя мовы. (За апошнія перадваенныя гады ва Украіне адна толькі «Люта справа» пад ачолам Андрэя Ганчарука спарадзіла такое цунамі беларускай паэзіі па-ўкраінску, што ўсе маленькія ўсплёскі перакладаў у іншых краінах, разам узятыя, яе не перавершаць. З гэтага пункту гледжання Украіна свой гештальт закрыла і цвікамі забіла). «Беларуская беларуская літаратура» існуе — і сапраўды добрая, не слабейшая за ўкраінскую, польскую ці дацкую. Але не ўсе ў РБ і ў свеце пра гэта ведаюць.

А цяпер лірычнае адступленне. У 1964 годзе Жан-Поль Сартр адмовіўся ад прысуджанай яму Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Матывацыя тагачаснага інтэлектуальнага куміра свету была, канечне, прадказальная: я не магу прыняць гэтую прэмію з-за яе глыбокай буржуазнасці, бо за час яе існавання ніводны пісьменнік-марксіст яе не атрымаў. Нобелеўскі камітэт вельмі блізка да сэрца прыняў погляды Сартра і на наступны год (са страху?) прысудзіў Нобелеўскую прэмію Шолахаву (за скрадзены трыццаць гадоў таму раман, хоць гэта асобная гісторыя). Папярэднія




расейскія лаўрэаты Бунін і Пастэрнак відавочна не былі марксістамі, апошняга проста цкавалі праз тую ж прэмію, а Шолахаву пашылі белы фрак і адправілі ў Стакгольм. Перамога марксізму як ідэалогіі была адначасова перамогай рускай літаратуры і рускай мовы. І роўна праз паўстагоддзя Нобелеўская прамова зноў прагучала па-руску.

У 2015 годзе Святлана Алексіевіч магла адмовіцца ад Нобелеўскай прэміі на карысць беларускамоўнага аўтара. Гэтага, вядома, не адбылося, але магло быць. Такім чынам можна было хаця б прыцягнуць увагу да народа, якога свет не заўважае, падкрэсліць, што ёсць мова, на якой гэты народ размаўляе і на якой стварае літаратуру…

Мэсэдж Нобелеўскага камітэту urbi et orbi адносна Алексіевіч быў даволі ясным: мы ўшаноўваем рускамоўную пісьменніцу, грамадзянку РБ, за выразную гуманістычную і антытаталітарную пазіцыю, за паказальную ролю ў развянчанні камуністычнай тыраніі і аўтарытарызму. Але нейкі Сяржук з-пад Бабруйска прачытаў гэтае паведамленне зусім па-іншаму: хопіць драпаць свае вершы па-беларуску, Нобелеўскай прэміі за гэта не дадуць. Лепш пераходзьце на рускую — там, бачыце, цётка Святлана піша па-руску і атрымала прэмію.

Рускія СМІ радасна перадалі навіны са Стакгольма пад загалоўкамі кшталту «Нобель зноў гаворыць па-руску!». Безумоўна, гэта была перамога «вялікай рускай культуры», хоць і завуаляваная. Але завуалявана яна як бы знарок так лёгка, нядбайна, ледзь-ледзь.

Мяне асабіста ўнутры каробіла, калі мае сябры, лепшыя беларускія пісьменнікі, весела цокалі наконт гэтага: «За перамогу беларускай літаратуры»! Як? Творы Алексіевіч у перакладзе на беларускую мову выходзяць у РБ накладам 500 асобнікаў…

З творчасцю Алексіевіч я пазнаёміўся даўно — яшчэ на пачатку 1980-х, калі, будучы салдацікам з прагай да чытання, перабіраў бібліятэку сваёй вайсковай часткі ў горадзе, які тады называўся Ленінград, усё, што было цікавага, і ў часопісе «Октябрь» я наткнуўся на тэкст «У войны не женское лицо»… Алексіевіч — не беларуская пісьменніца, яна пісьменніца «саўка», і таму не гучаць і не чытаюцца яе опусы па-беларуску. Вывучаць савок па-сапраўднаму можна толькі на ягонай мове — «лингва советика», яна ж «русский язык»…

У год уручаецца толькі адзін медаль чэмпіёна свету па літаратуры. А жадаючых ніколі не бракуе.

Сутнасць трагедыі ў тым, што пасля бурных падзей жніўня і восені 2020 года ў Мінску дзяржава РБ паступова выцясняецца на маргінэс у вачах свету. У цэнтры ўвагі цяпер Украіна, і гэта нездарма. І, вядома, мы ўсе трымаем кулачкі за Сергія нашага Жадана.

У РБ ж, як бачым, рэжым ачуняў ад спалоху і закруціў гайкі ледзь не да зрыву разьбы.

І асаблівай прыкрасці дадае ўсведамленне таго, што ў бок «беларускай беларускай» літаратуры вока Стакгольма цяпер падзівіцца не хутка, у лепшым выпадку праз некалькі дзесяцігоддзяў. То бок усе сённяшнія больш-менш актуальныя «беларускія беларускія» пісьменнікі не дажывуць да абвяшчэння наступнага Нобелеўскага лаўрэата з РБ — на той час ужо беларускамоўнага. Усе гэтыя арловы-хадановічы-бахарэвічы нават калі і трапяць у кандыдацкія спісы, дык дакладна не выйграюць у фінале. Там у Чэхіі ёсць Яраслаў Сэйферт (з часоў ЧССР) — і галачка ўжо пастаўлена. І нават вялікі Грабал так і не быў Нобелем уганараваны. А вялікі фламандзец Гуга Клаўс, не дачакаўшыся Нобелеўскі, замовіў эўтаназію. Так што мае́ шчырыя спачуванні калегам-беларусам, існым у РБ і па-за ёй.

А мы, як ужо сказана вышэй, усе за Сергія! (Абы толькі які-небудзь Муракамі не стаў яму дзесь папярок дарогі.)

***zbruc.eu***
***Пераклад з украінскай мовы.***

# «Паэт, якому наканавана было здзіўляцца»

## Старонкі з архіўнай аповесці пра Максіма Танка «...Натуральны, як лінія небасхілу»

*Да 110-годдзя Народнага паэта*


Фота з хатняга архіва

Максім Танк

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Максім Танк — паэт, якому наканавана было здзіўляцца: няўжо людзі так і не зразумеюць людзей і колькі яшчэ зямля будзе цярпець такіх незгаворлівых дурняў?!

Паэт верыў у простыя ісціны, паводле якіх, як у той казцы, дабро перамагае зло, і ці не змалку ведаў: так бывае не заўсёды, аднак жа верыў да старасці.

Ён творча настройваў сябе на каштоўнасць часу, упэўнены: час даражэйшы за грошы, хаця паміж нараджэннем і смерцю, калыскай і дамавінай існуе, на ягоную думку, не час, а толькі вінная (!) розніца:

*Чаркай віна*
*Адзначаецца дзень нараджэння*
*І дзень развітання.*
*Розніцы, пэўна, між імі*
*Ніякай няма,*
*Калі не лічыць*
*Розніцы ў смаку віна.*

Верлібры паэта нагадваюць фрагменты антычных збудаванняў, а ягоны скепсіс заўсёды быў неаспрэчны:

*Як толькі ў маленстве*
*Сяк-так навучымся хадзіць,*
*На гэтым, звычайна,*
*І канчаецца наша*
*Адукацыя...*

І вызначэнне ў роднай паэзіі маўчання таксама з'яўлялася па-танкаўску неаспрэчным:

*Маўчанне*
*Ніколі не было*
*І не будзе золатам:*
*Яно — або*
*У шмат разоў даражэйшае,*
*Або — нічога не вартае.*

Так гаварыў чалавек, які, здаецца, не пільнаваўся думкі: людзі хай жывуць як выходзіць, а я буду жыць як і жыў дагэтуль, і які лішне, здаецца, не лісліві; так гаварыў чалавек, які ведаў, што такое дзяржаўны дыктат, і які і пры дыктатуры маўчання (!) шукаў новыя лексічныя значэнні.

Мора не зважае, што вымывае на бераг бурштын, а паэт не задумваецца, што дае словам новы сэнс; асабліва такім свавольным паняццям, як слава:

*Слава —*
*Медыцынская сястра,*
*Якая часта блытае адрасы,*
*Спазняецца*
*Праверыць пульс*
*І каму трэба*
*Аказаць дапамогу.*

У творчасці майстра далёкая прастора заўсёды становіцца блізкай, чужое робіцца зразумелым, а філасофская здагадка ў сваёй класічнай нязменнасці, здаецца, з'явілася спачатку ў тваёй чытацкай душы і толькі пасля ўжо ў гэтай знакамітай міфалогіі:

*Старажытныя амфары.*
*Гэта, што была з вадой,*
*Расказвае пра дзяўчыну,*
*Якая з яе спаталяла смагу.*
*Гэта, што была з віном,*
*Расказвае пра песні,*
*Якія спявалі на свяце Дыяніса...*
*Але чаму з іх адна маўчыць?*
*Няўжо была ў ёй цыкута?*

У пытаннях жывуць адказы!

Нас вучылі: эстэтызм раз'ядае палатно зместу, і, магчыма, гэта так, аднак у вяршынных творах Максіма Танка выяўнае захапленне хараством ужо само па сабе становіцца тым нечаканым, а таму патрэбным зместам, які непрыдуманы, які прыродны, хаця й мае прыкметна кніжную аснову.

Дарэчы, паэт не меў універсітэцкай адукацыі і, пэўна ж, праз гэта быў проста нястомным чытачом, усё жыццё сам вучыўся паэтычнаму рамяству і авалодаў ім на зайздрасць кожнаму...

*— Шчаслівы ты, што можаш Галатэю*
*У мармуры стварыць, Пігмаліён.*
*Перад яе прывабнасцю нямею.*
*І мне здаецца, што ўсё гэта — сон.*
*— Не сон! Чакай! Яшчэ разцом прайду я,*
*Яшчэ распраўлю валасоў брую.*
*І ты пабачыш наяву жывую.*
*Глядзі! Скідае туніку сваю...*

Што гэта? Узор чыстага мастацтва? Магчыма. Аднак жа Максіма Танка не назавеш эстэтам — іншыя задачы стаялі перад ім.

Праз усё сваё доўгае жыццё ён шчыра хацеў аб'яднаць беларускае і савецкае, народнае і камуністычнае. Паводле Уладзіміра Калесніка: ідэю палітычную паэт ператвараў у ідэю мастацкую...

Я чуў і бачыў Максіма Танка ў ягонай старасці; чуў па тэлефоне ў верасні 1992-га — ён пазваніў мне, каб падзякаваць за мой артыкул пра яго...

Бачыў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у Саюзе пісьменнікаў, у музеі Янкі Купалы (тады ў музеі ён расказваў Зянону Пазьняку, як угаворваў яго дзеда Яна Пазьняка прыняць удзел у стварэнні Народнага фронту ў Заходняй Беларусі); у 1995 годзе я заходзіў да паэта ў шпіталь...

Аднак жа самыя адметныя, самыя асаблівыя, самыя *мастацкія* сустрэчы былі ў яго дома, на вуліцы Кульман...

У снежні 1992-га Васіль Зуёнак папрасіў, каб я схадзіў да Максіма Танка па новы рукапіс ягоных вершаў (машынапіс кнігі вершаў «Мой каўчэг»)...

Як рэдактар, я некалькі разоў сустракаўся з паэтам і, вярнуўшыся дадому, рабіў спешныя нататкі:

«16 красавіка 1993 г. Быў у Максіма Танка на вуліцы Кульман. Гаспадыня кватэры Любоў Андрэеўна ў інвалідны калясцы... Гаспадар вельмі цікава расказваў пра Янку Купалу: "...у час вайны мы сустракаліся ў Маскве. Купала тады называў мяне "вызваленым", бо я з вызваленай Заходняй Беларусі... Аднойчы запрасіў на дачу да сакратара Максіма Горкага Кірпоціна. Увесь час, пакуль ехалі, Уладзіслава Францаўна дакарала за ўчарашняе: позна аднекуль прыйшоў! Купала даваў жонцы водпаведзь па-польску... Калі выехалі ў поле, немцы пачалі бамбіць горад, а Уладзіслава Францаўна вяла сваё... І от у самы пік сваркі загадаў шафёру спыніцца, адчыніў дзверцы і выгукнуў у неба:

— Анёл Паньскі! Забеж одэ мне тэго д'ябла!..

Часта пытаюць пра купалаўскага шафёра. Ён быў з аўстра-венгерскіх палонных, здаецца... Чалавек даволі дзіўны. Калі пры ім нехта глядзеў на свой гадзіннік, то ён тут жа вымаў свой і казаў:

— Извините за грубость, у меня тоже есть часы!..

Мы жылі ў гасцініцы "Масква". Я з Броўкам у адным нумары. Аднаго разу Купала占 заначаваў у нас... Раптам сярод ночы пытае:

— Гэта ты, мая Ная?

— Гэта я, дзядзька Янка! — адказаў Броўка.

От і думай, што хочаш...

Купалу добра ведалі ў рэстаране гасцініцы, а ў тым рэстаране меўся акварыум з карпамі.

Часам Купала клікаў афіцыянта:

— Братка, злаві мне вунь таго і засмаж!

Афіцыянт лавіў карпа, але, зайшоўшы за калону, выпускаў яго назад у акварыум і, вытрымаўшы час, неабходны для смажання, прыносіў з кухні раней прыгатаваную рыбіну...

Хіба праверыш: той карп ці не, але Купала заўсёды быў задаволены...

Грошай у нас было не надта, а неяк адначасова яны выйшлі і ў мяне, і ў Броўкі, і ў Кучара. Ведаючы, што мы галодныя, Купала запрасіў нас на абед. Па абедзе ж дастаў свой партманет і спакойна гэтак разважыў:

— Кожны плаціць сам за сябе...

Мы з Броўкам на нейкі момант збянтэжыліся, ажно вачыма залыпалі, але "выручэй" Кучар — ён тут жа палез у Купалаў партманет:

— Дзядзька Янка, дык жа ў вас поўна грошай!

Даўшы Кучару разабрацца са сваёй гатоўкай, Купала ўсміхнуўся і падміргнуў нам:

— Што, напалохаліся?! <...>

Пра Янку Купалу, ды яшчэ такія жывыя апавяданні, слухаў бы і слухаў, аднак жа я не так слухач, як рэдактар, таму трохі пагаварылі і пра «Мой каўчэг» — рукапіс вершаў, які я рэдагую, і сам аўтар ацаніў яго так: «Сіл пакуль хапіла, і сабраў гэты зборнік, але ці адужаю сабраць новы?».

І зноў гаворка пайшла пра пісьменнікаў:

«...неяк у час вайны Панамарэнка спытаўся ў нас:

— Может, стоит выпустить Андрея Александровича? Похулиганил и хватит?

Лынькоў быў за тое, каб выпусціць. А я сказаў, што не ведаю ўсёй справы, і Панчанка гэтак сказаў... Броўка ж і астатнія былі супраць...».

Тут гаспадар кватэры спытаў, ці можна дадаць у рукапіс новыя творы, і разгарнуў тонкі школьны сшытак (у такія сшыткі ён звычайна і занатоўваў свае верлібры), і я, вядома ж, адказаў, што новыя вершы дадаць можна, а ў звязку з П. Броўкам і А. Александровічам успомніў «Аповесць для сябе» Барыса Мікуліча, у якой згадваліся такія Броўкавы словы: «Мы Александровіча не надта хочам пускаць зноў, паганы ён чалавек...».

Максім Танк ажывіўся:

— У 1948 годзе я спрабаваў у «Полымі» надрукаваць Барыса Мікуліча, ягоны «Жыццяпіс Вінцэся Шастака», але не далі...

Было бачна, да Б. Мікуліча адчуваў сімпатыю, гаварыў пра яго так, што вось ён — сталінскі вязень, а пісаў у любых умовах, заставаўся творцам заўсёды, як і Ларыса Геніюш, як і Пятро Бітэль...

Пайшла гаворка і пра тое, што П. Бітэль у бараку пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» і праз аднаго паляка, які адседзеў сваё, пераслаў пераклад у беларускі Саюз пісьменнікаў. Пятрусь Броўка аддаў рукапіс яму, Максіму Танку: маўляў, ты лепей разбіраешся па-польску, так што чытай і параўноўвай!

Высока ацаніўшы пераклад, Максім Танк, тады ўжо лаўрэат Сталінскай прэміі, напісаў невядомаму перакладчыку прыязны ліст...

А што было далей, паведаў мне сам Пятро Бітэль, з ім я сустракаўся ў 1983 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», калі рэдагаваў ягоную кнігу паэм...

П. Бітэля выклікаў начальнік лагера.

— Вы пасылалі ў Мінск рукапіс?

— Пасылаў...

Дзіва дзіўнае, такі адказ цалкам задаволіў начальніка (і сярод іх, сталінскіх паганятых, людзі сустракаліся!), і ён даў прачытаць ліст. Прачытаўшы, уражаны вязень знайшоў у сабе сілы папрасіць, каб гэтае нечаканае пасланне аддалі яму. Не аддалі, і тым не менш...

— Як я ўсцешыўся тады! — казаў спадар Пятро. — На мяне пачалі глядзець па-другому, нават на лягчэйшую работу паставілі, бо мне, зэку, напісаў лаўрэат Сталінскай прэміі!..

Я коратка пераказаў Бітэлеў успамін, і Максім Танк памаладзеў:

— А я й не ведаў, што ўсё так добра адбылося! Адно цікава: куды схавалі той ліст?

— Мусіць, ляжыць у справе Бітэля?!

— А можа, у маёй справе?! — смех царскім чырвонцам бліснуў у яго позірку. — За сваё жыццё я многа пісьмаў па свеце разаслаў, багата ж і атрымліваў... Цяпер загаварылі ўсе пра Ларысу Геніюш, а яна вялікая ахвотніца была пісаць лісты! Шмат пісала і да мяне... Часам нешта прасіла, але адну просьбу я не выканаў...

— Якую?

— Дапамагчы выехаць у Чэхаславакію! Не мог зразумець, як гэта можна пакінуць Беларусь!.. Памятаю, як яна адмовілася ад дзвюх пуцёвак у Кактэбель... Мусіць, муж яе настройваў на гэта...

Дык вось, гэта запіс ад 16 красавіка 1993 года; гадзіны тры доўжылася маё гасцяванне-рэдагаванне; на адвітанне ж Максім Танк паказаў пісьмы ад спевака М. Забэйды-Суміцкага і зноў загаварыў пра Янку Купалу, па-сялянску разважыўшы:

— Трэба напісаць пра яго, але як жа пра ўсё напісаць?!

Акцэнт быў зроблены на гэтае таямнічае «ўсё»...

А праз чатыры дні яшчэ раз я пайшоў на вуліцу Кульман.

«20 красавіка 1993 г. Зноў у Максіма Танка. Рабілі апошнія праўкі ў кнізе "Мой каўчэг", і, калі ўправіліся, паэт паказаў "Лютню Пушкіна" — зборнік, у якім Юльян Тувім сабраў усе свае пераклады твораў расійскага генія...

— Пасля вайны я быў у Варшаве на днях Адама Міцкевіча. З Максімам Рыльскім і Міколам Бажаном наведаў Тувіма. Кожнаму з нас ён падараваў па такой кнізе...

— Вы завучваеце свае вершы на памяць?

— Не... А от Пушкіна па-польску магу чытаць на памяць хоць увесь дзень!

— А як адносілася ўлада да Тувіма ў пасляваеннай Польшчы?

— Здаецца, добра. Ён тады якраз вярнуўся з Бразіліі... Праўда, у палякаў не разбярэш. Часам такога могуць коніка выкінуць! Вачам не верыш! Пра таго ж Міцкевіча, напрыклад, могуць такое панапісваць!..

Я ўжо стаяў у парозе, а ён без ніякай злосці пасмяяўся з нашай моладзі, якая, на яго думку, перабольшвае маштаб Грунвальдскай бітвы:

— Аперацыя "Баграціён" — вось дзе Грунвальд быў! Тут ужо немцам далі дык далі!..

Развітаўшыся з Любоўю Андрэеўнай, якая нерухома сядзела ў сваім вазочку, я ўжо выходзіў з кватэры, а ён раптам прамовіў:

— Чэслаў Мілаш сказаў пра паэзію: яна выскоквае з нас, як тыгр...»...

# Энергія праўды, дабра, гармоніі

## Да 100-годдзя Уладзіміра КАЛЕСНІКА

Васіль ЖУКОВІЧ

Талент меў ён шматгранны. Некалькі фактаў. Ва ўнікальнай кнізе «Я з вогненнай вёскі...» усе фотаздымкі зроблены ім, Уладзімірам Калеснікам. Яшчэ засталіся цэлыя залежы мастацкіх фатаграфій. Добра валодаў майстра слова і скульптарскім разцом ды мастакоўскім пэндзлем. Люба глядзець і лёгка заглядзецца, напрыклад, на скульптурны партрэт Скарыны, выразаны з дрэва. Такі каларытны вобраз — вынік майстэрства і фантазіі натхнёнага мастака. Што да ягоных карцін, то яны асветлены пяшчотнай любоўю да роднай прыроды, яе маляўнічых куточкаў, якія знаходзіў чуйным сэрцам, відушчай душою. Маляваць любіў змалку. Цікавіўся мастацтвам. Многа чытаў пра жывапіс, самастойна авалодаў тэхнікай акварэльнага малявання і разьбой па дрэве. Так што (асабліва пры адпаведнай адукацыі) ён мог стаць знакамітым мастаком ці скульптарам. Але ў Мінску пад час вучобы ў педінстытуце пераключыўся на літаратуру: Янка Брыль звёў з пісьменнікамі.

Пачаў літаратурную дзейнасць Уладзімір Калеснік пазнавата. Першую кнігу выдаў у 37 гадоў. Затое інтэлектуальная база ў яго была ўжо грунтоўная: аспірантура, інстытуцкая практыка, яе вялікасць НАЧЫТАНАСЦЬ. Напачатку 60-х я, студэнт, запрошаны куратарам у госці, быў прыемна ўражаны, здзіўлены: убачыў у кватэры на ўсю сцяну стэлажы з сусветнай класікай і філасофскай літаратурай, мноствам часопісаў; стаялі там выданні на роднай, польскай, рускай, украінскай мовах. Дарэчы, праз польскую мову і польскія крыніцы ён меў доступ да сусветных навінак, бо Польшча з'яўлялася іх пранікальнікам і перадатчыкам на славянскі кантынент сур'ёзных ведаў. Веды і валявы характар, імкненне дакапацца да ісціны-праўды адорвалі выдатнымі поспехамі. Яго творчасць клікала чытачоў і кліча сёння ў вабны свет мудрасці і хараства прадвесніка беларускага рэнесансу Францішка Скарыны і аўтара найвыдатнейшага твора рэнесансавай паэзіі на Беларусі — «Песні пра зубра» — Міколы Гусоўскага, у свет чараўніка, «мудрага непісьменнага пісьменніка» — казачніка Рэдкага і паэта-змагара, «духоўнага важака народа, вартавога спадчыны» — Янкі Купалы, чыя паэзія напоўнена духам Адраджэння, у свет надзвва багатай, іскрыстай і ўдумлівай, часам шчымлівай, але заўсёды жыццядайнай прозы Янкі Брыля, у свет паэзіі вольналюбівага Уладзіміра Караткевіча, ворага ўсякай артадоксіі, усякай руціны, змагара супраць стандартызацыі духоўнага жыцця, у свет цудоўнай, размаітай паэзіі Ніны Мацяш, Міхася Рудкоўскага, Алеся Каско...

Змагаўся ён за Чалавека ў чалавеку ў сцюжы і маразы, адлігі і слоту, у гады перагібаў, вакханаліі і хаосу. Праз ліхалецце класавай барацьбы, драму сялянства і трагедыю інтэлігенцыі, праз пекла вялікай айчыннай бяды, страшны разбуральны час дэнацыяналізацыі, нядрэмнай ідэалагічнай пільнасці пранёс Уладзімір Калеснік сваю ўражлівую і гарманічную душу. Валодаў ён рэдкасным дарам, здольнасцю аднолькава цікава і маштабна напісаць пра творчасць і самога творцу; у яго кнігах, прадмовах да кніг, у літаратурных партрэтах, эцюдах, эсэ, нарысах, створаных вялікім сэрцам і глыбокім розумам, мы знаходзім нямала ўзораў менавіта такой сінхроннасці, двуадзінства творчасці і творцы, калі гаворка ідзе, напрыклад, пра Уладзіміра Жылку, Янку Брыля, Фёдара Янкоўскага, Уладзіміра Караткевіча, Ніну Мацяш. Дапытліваму чытачу ён няўтомна паказваў неардынарныя, змястоўныя постаці творцаў на фоне народнага жыцця, грамадскіх падзей, гісторыі, на фоне айчыннай культуры, літаратурнага творчага працэсу краіны і ўсяго свету.



Фота nlb.by

Уладзімір Калеснік

Ідэалагічныя пастухі кантралявалі яго творы на дарозе да чытача, помсцілі за пошукі праўды. Ды і ў тых умовах яму ўдавалася ахоўваць беларускае паэтычнае слова ад наскокаў вульгарных тэарэтыкаў, абараняць праўду-красу роднай літаратуры. Хоць яшчэ змоладу даводзілася спальваць нервы, бо за адну толькі спасылку на Ластоўскага яго ледзь не выключылі былі з аспірантуры.

Першая кніга Уладзіміра Калесніка — «Паэзія змагання» (1959) — пра раннюю творчасць Максіма Танка. Яна прасякнута клопатам пра высокі эстэтычны ўзровень мастацкага слова. Прыемна ўражвае кампетэнтнасць Калесніка-даследчыка, трапнасць і фундаментальнасць яго крытычных характарыстык ды яго грамадзянская смеласць. Ён варты пашаны хоць бы за наватарскі разгляд паэмы «Кастусь Каліноўскі», за глыбокую і смелую трактоўку вобраза нацыянальнага героя, «мужнага аўтара лістоў з-пад шыбеніцы», арганізатара і аўтара «Мужыцкай праўды».

Уладзімір Калеснік з кожнай новай кнігай рос як майстра слова. Вышэй і больш разняволена сягала думка, больш вобразнаю і паўнакроўнаю рабілася мова, класічным стыль, пра што гавораць кнігі «Тварэнне легенды» (1987) і «Усё чалавечае» (1993), апошняе прыжыццёвае выданне.

Ужо ў цяжкім стане здароўя апантаны творца завяршаў кнігу ўспамінаў «Доўг памяці», якую сам ён назваў шчырай, сумнай і балючай аповесцю. Так, гэтая проза, па-першае, не проста шчырая, а гранічна шчырая, яна — спавядальная. Па-другое, такое ж дакладнае тут вобразнае азначэнне — балючая, я сказаў бы, шчымлівая. Толькі сумнай назваць яе не магу, бо яна яскравая, жывая, у многіх эпізодах дасціпная. Гэтая аповесць мудрая. Нездарма «Доўг памяці» знаны Янка Брыль у сваёй прадмове назваў таленавіта-змястоўнай кнігай-помнікам.

У кнізе багата адметных эпізодаў маленства ў цудоўным Наднямонні — з гульнямі, свавольствам, з першымі страхамі, з павер'ямі, забабонамі старэйшых, з матулінымі казкамі і яе малітвамі, якія хлопчыку здаваліся «калекамі» (былі незразумелыя на стараславянскай мове), з ідэальным ласункам — мёдам дзікіх пчолаў, з сястрыною (старэйшай сястры Марусі) забаўлянкаю:

*Кую, кую пятку,*
*Мы паедзем к татку.*
*А ў нашага татка*
*Новая хатка,*
*І садок, і мядок,*
*І цыбулькі градка.*

Маленства — гэта і захапленне маляваннем ды паэтычным словам Якуба Коласа, гэта і цэлы свет гульняў, забаў і свет абавязкаў. Цяплеюць вочы ад усмешкі, калі ў яркім дыване аповеду сустрэнеш празрыстыя нітачкі-радкі такога кшталту: «...Маёй зморай былі гусі... Пасвіць гусей мне не хацелася: вельмі ўжо непрэстыжная жыўнасць»...

Як на споведзі перад святаром, у «Доўгу памяці» адбываюцца прызнанні ва ўсіх грахах. Аднаго разу Валодзька навёў сябрукоў на зялёны, смачны гарох, які дарэшты быў златошаны. А на Марусіным вяселлі ён, калі «поезд» паехаў у царкву ў Яромічы, а маці на кухні шыкавала з жанчынамі стравы, «ціхачом пазваў сябрукоў у святліцу і добра падпаіў іх гарэлкай, што засталася на сталах ад ранішняга стрыманага прысяду вясельнай дружыны. Маці проста аслупянела, убачыўшы застолле падшыванцаў»... «Да гарэлкі, — прызнаецца герой аповесці, — я больш не дакрануўся... Не ўжываў я хмяльнога ажно да цяжкіх партызанскіх стрэсаў...»

Працэс навучання і выхавання ў пачатковай школе ў Яромічах аздабляў прапаведнік «Закону Божага», арыгінальны і дабрадушны святар Віталій, чый вобраз добра запамінаецца. Западае ў душу настаўніца гімназіі пані Марыя, што чытала ў класе творы беларускіх класікаў. Там, у Навагрудскай польскай гімназіі, хлопчык з Сіняўскае Слабады становіцца свядомым беларускім юнаком, акрылены марай настаўнічаць. Новай прыступкаю ведаў сталася беларускае педвучылішча ў Навагрудку.

Ды радасць мірнага жыцця, вучобы, сяброўства абарвалася вайною. Пачалася арганізацыя падполля, а там і партызанскае змаганне з ворагам. Юны інтэлігент прайшоў суровую школу кулямётчыка, мінёра-падрыўніка, камандзіра ўзвода і начальніка штаба атрада, зведаў жахі блакады і страты баявых сяброў. Быў двойчы паранены.

Аповесць цікавая і моцная не фабулай (строгае фабулы тут якраз і няма) — яна ўзрушае глыбокімі пачуццямі і думкамі аўтара, багатая развагамі (часта філасофскага характару) пра жыццё і смерць, пра сусвет і рэлігію, пра чалавечую годнасць, пра кнігі, карціны, пра каханне, пра хараство.

Абсалютная большасць старонак кнігі прысвечана партызанскай вайне, распавяду пра ўдзел у ёй маладых патрыётаў, іх мужнасць і самаахвярнасць. Па-быкаўску смелы Мастак не заплюшчваў вачэй і перад нізкім, амаральным, агідным. Ён піша пра «рэжымных зноскаў»: «...такіх субстанцый, як годнасць, у іх, бадай што, і не было». Галоўны герой паўстае супраць групы дэсантнікаў, якія былі на грані злачынства,




адкрыта выступае з суровай крытыкай подлага кар'ерыста камбрыга Ключко. Словам, моцная і глыбокая асоба не магла мірыцца з учынкамі падонкаў, яна бунтавала. Але адораная душа і тут, у хвіліны часовага зацішша, не магла не думаць пра хараство, не захапляцца ім.

Кнігу «Доўг памяці», як сведчыць надпіс на тытульнай старонцы, аўтар прысвяціў Зіне Маслоўскай. Хто яна? Адным словам не адкажаш. Зіна Маслоўская — яго ні з чым не параўнанае Сяброўства, бо яно перарасло ў светлае і чыстае, святое пачуццё, яго Каханне. Яна ж — і горкая, пякучая страта, сардэчны боль, драма юнацтва і ўсяго жыцця: Зіна загінула, трапіўшы ў рукі ворагаў. Натуральна, самыя трапяткія і спавядальна пранікнёныя старонкі аповесці — пра яе, не выключэнне — і дзве апошнія. «Усе амаль пяцьдзясят гадоў, што прайшлі ад майго знаёмства з Зінай Маслоўскай, — не ўтойвае аўтар, — былі пазначаны яе прысутнасцю... Зіна часта была маральным вартаўніком маіх паводзін, без якога я не здолеў бы так многа працаваць, не адчуваў бы сябе чалавекам, якому трэба многа, многа пазнаць, каб унесці хоць крупінку ў сусветную дзею. І калі тое, што я напісаў, здолее выклікаць у чытача адчуванне горкай яснасці, абудзіць захопленасць Зінай, яе духоўным хараством, для мяне гэта будзе знакам адпушчэння».

«Ён разумеў, што духоўнае багацце грамадства складаецца з багатых духам натур, постацяў», — сказаў Уладзімір Калеснік пра Алеся Разанава ў артыкуле «Страла і мэта». Праціўнікам «забарон і ўказальных знакаў на шляху творчага духу» назваў Уладзіміра Караткевіча ў рэцэнзіі «Кантэкст несмяротнасці». А рэцэнзуючы зборнік паэзіі У. Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду», заўважыў: «Ажывае са старонак спантанна шчыры, любячы і гняўлівы, узрушаны і расчулены, пахмурны і насмешлівы Валодзя Караткевіч». У такіх выказваннях і азначэннях мне бачыцца найперш ён сам, ягоная сутнасць; да іх я дадаў бы яшчэ некалькі палярных рыс: сакрушальна-рэзкі і лагодны, экспрэсіўны і разважлівы, натхнёны і роспачна-прыгнечаны; ды нішто Уладзіміру Андрэевічу не замінала заставацца чулым, справядлівым, самаахвярным.

Памятаю, калі я, студэнт, трапіў у Берасці ў бальніцу, ён даў грошай майму аднакурсніку Сяргею Сайко, каб меў з чым праведаць мяне. Успамін пра гэта адразу нагадвае і такі эпізод: у 1990 годзе ў Мінску я выпадкова сустрэў Уладзіміра Андрэевіча, ён выходзіў з будынка архіва. Калі даведаўся з гутаркі, што я наважыўся праведаць Міхася Рудкоўскага ў Навінках, дзе хворы паэт ляжаў пасля цяжкай аперацыі, дастаў з бумажніка і, як я ні адмаўляўся ўзяць, даў 25 рублёў, якіх хапала не толькі на чорную ікру, але й на іншыя далікатэсы і прысмакі.

Да месца тут сказаць, што неад'емнай якасцю яго шырокай душы была гасціннасць. Людна было на яго юбілеях. Сяброў, настаўнікаў, літаратараў нярэдка запрашаў дадому. Цяжка згадаць якую-небудзь прыкметную вечарынку, якая не завяршалася б вячэрай у кватэры Калеснікаў. Усе кухонныя клопаты кладліся пераважна на плечы сардэчнай і цярплівай Зосі Міхайлаўны, яго паплечніцы-спадарожніцы. Наглядзелася яна за дзясяткі гадоў і на мясцовых, і на заезджых песняроў, нападавалася на стол...

Чым больш гадоў няма з намі Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, тым больш пераконваешся, як былі б дарэчы сёння ягоныя грамадзянская смеласць, прафесарская мудрасць, пісьменніцка-даследчыцкая актыўнасць і кампетэнтнасць, шчырасць і шчодрасць таленту. Зрэшты, чаму былі б, калі засталася яго літаратурная спадчына, а ў ёй — жывая душа творцы, дзейсная энергія праўды, дабра, гармоніі.

# Конкурс

## Урывак з новага рамана



Андрэй ФЕДАРЭНКА

Конкурс сцэнарыяў, які «FilmBelly» ўдалося перахапіць у асноўнай студыі, аб'явілі мінулай восенню, у кастрычніку, а вынікі падводзілі сёлета, у красавіку. Конкурс быў тэматычны. Ён усхваляваў многіх. Патрабавалася штосьць духоўнае, лірычнае, разам з тым патрыятычна-нацыянальнае, кшталту "Любіць па-руску", толькі на фоне арнаменту і ў аздабленні васількоў і рамонкаў. На тэму, аднак, мала хто звярнуў увагу. Гэта быў адзін з рэдкіх праектаў, які цалкам фінансаваўся дзяржкаваю. У выпадку, калі пашанцуе і фільм здымуць, ні ў кога не будзе балець галава, што з ім далей рабіць. Раз дзяржзаказ, дык няхай дзяржава і думае.

З амаль дзвюх сотняў конкурсных твораў па традыцыі % 80 складала кан'юнктура пра вайну, далей — перапеўкі КВЗ, «Камедзі-клаб», «Уральскіх пяльменяў», жарцікі-сцёб, любоў-маркоў, ёлкі-палкі, мамкі-таткі. Далей ішоў дружным шэрагам лубок, варыяцыі на тэму «Сватоў», дзе жыхары аграгарадкоў спявалі рускія народныя песні, пакладзеныя на рэп, пускалі вянкі па вадзе і скакалі праз вогнішча: хлопцы былі ў касаваротках, картузах з бліскучымі брылямі і з кветкаю за вухам, дзяўчаты ў какошніках і сарафанах. Было трохі фэнтэзі, містыкі і «пападанства» — пераківу ў іншы час; некалькі пошукаў скарбаў, з паўдзясятка ўтопій і антыўтопій; дзве, як выказаўся масціты сябра журы, заслужаны дзеяч мастацтваў Сцяпан Алесевіч, «лібідабеліберды». Многа было агульных і буйных планаў, перапытванняў: «Як вас завуць?» — «Каго, мяне?». І над усім панаваў нястрыманы, бязмежны, ненармальны аптымізм. Героі ўвесь час смяяліся, дарэчы і недарэчы.

Падводзячы вынікі, журы ўжо адчаялася нешта людскае знайсці. Як у канцы сакавіка прыйшоў яшчэ сцэнарый, дакладней, невялікая кінааповесць пад назвай «Месца». Напісаная, ці, прынамсі, падпісаная нейкім студэнтам-першакурснікам. Знаўцы з журы растлумачылі недасведчаным назву. Што «месца» — гэта горад, а таксама кропка знаходжання, а яшчэ — састарэлае абазначэнне службы ці працы. Сінопсіс: тэма маленькага чалавека, офіснага, сярэдняй рукі супрацоўніка, сучасны варыянт гогалеўскага «Шыняля». Сваёй непасрэднасцю ён, як раней казалі, «браў за душу», уздзейнічаў, як нешта даўно знаёмае і незаслужана забытае, якое цяпер сустракаеш як дарагога госця, ледзь не са слязамі замілавання. Слова ўзяў паважаны Сцяпан Алесевіч.

— З чаго пасмяешся, таму паслужыш, — пачаў ён. — Мы ўсё нечага чакаем. Нам падавай дык падавай. Пісаць — дык адразу «Вайну і мір», здымаць — дык «Гульню прастолаў». У выніку ў нас поўна геніяльных шэдэўраў (ён паказаў пальцамі двукоссе), мы ўжо не ведаем, дзе іх дзяваць, гэтыя шэдэўры, што з імі рабіць. Бяда ў тым, што ў нас не стала проста нармальных мастацкіх тэкстаў.

Затым чарадою пайшлі выступленні іншых сяброў журы: акцёр, лаўрэат, празаік, паэт, рэжысёр. Сэнс іх слоў зводзіўся да таго, што, сапраўды, раптам некуды прапалі гэтыя лёгкія, добрыя, лірычныя і светлыя камедыі ў разанаўска-гайдаеўскім стылі, якія не неслі дыдактыкі і маралі, не ставілі глабальныя пытанні, ні на што не прэтэндавалі, але менавіта ў тым, як ні парадаксальна, была іх каштоўнасць.

Словам, сцэнар спадабаўся ўсім. Журы было аднадушным. І толькі Інга Міхалевіч-Яравая, намесніца галоўнага рэдактара кінастудыі, яна ж намесніца старшыні журы Сцэнарнага конкурса (старшынём быў сам шэф, гендырэктар Хрушчанка, але ён ні ў што не ўмешваўся і цалкам давяраў шаноўнаму журы) — яна адна не спяшалася. Яе мастацкая, а больш жаночая інтуіцыя падказала, што нешта тут не так. Надта ж маладыя, дужа ранні быў аўтар, у той час, як адчувалася вопытная рука. Пашукаўшы па ключавых словах і асноўных сказах у Інтэрнэце, пакруціўшы іх так і сяк, яна нічога нават прыблізнага не знайшла і чамусьці з палёгкаю ўспрыняла гэта. Не плагіят? А раптам дзіва? І гэты студэнцік сапраўды аўтар? Чаго ў жыцці не бывае. Заходзіла на яго профіль у Фэйсбук, чытала скупыя звесткі, углядалася ў наіўную фізіяномію. Сінія вочы, белыя валасы. Падобны на Брэда Піта, толькі вушатага...

Увогуле, Фэйсбук студэнцік амаль не вёў. І гэта яна адзначыла плюсам. Усё ж не такі, як усе. Як мінімум, не балбатун. Або скрытны, або прадбачлівы, а значыць, разумны. Разумны не будзе вывальваць усё пра сябе. Так яна ні да чога не прыйшла. Тады, парушаючы ўсе магчымыя конкурсныя нормы і правілы, яна патэлефанавала яму. Ціхі, сарамлівы, нават як бы спалоханы голас, хваляючыся, з выбачэннямі заявіў, што ў бліжэйшы час не можа сустрэцца, бо працуе па зменах пасля абеду. (Вось як — працуе.) А да абеду? Таксама заняты. Дамовіліся, што як толькі будзе вольны, няхай адразу пад'едзе, «важная размова», — папрасіла яна.

Час ішоў. Ён не адклікаўся. Ні назаўтра, ні паслязаўтра. Між тым трэба было нешта вырашаць, бо яна затрымлівала журы. Людзі залежалі ад яе марудлівасці.

— Здарылася што? — спытаў муж, які любіў быць у курсе жончыных спраў — ад адсутнасці сваіх.

— Нічога, — адказала яна. — Хаця... Хочаш глянуць адну рэч? — Калі-небудзь яна выкарыстоўвала яго ў якасці своеасаблівага эксперта, «свежага вока». — Цікава, што скажаш.

— Ахвотна. Але ты ж ведаеш мой густ, — прамовіў ён крыху какетліва, нібы набіваючы сабе цану. — Мне цяжка дагадзіць.

Ён быў старэйшы за яе на 15 гадоў. Высокі, мажны, непаваротлівы. Лысы, што, праўда, толькі маладзіла яго. Круглатвары, у акулярах з круглымі шкельцамі, за якімі плавалі цікаўныя шэрыя вочы. У шырокіх джынсах і белай сарочцы. Гэта знешне, а вось унутрана ён нібы перанёсся з XX, калі не з XIX стагоддзя, у наша дваццаць першае. Яго гу́сты, калі яму верыць, застылі, закасцянелі гадоў 30 назад і больш не развіваліся. Усё, што стварылася за гэты час у літаратуры, музыцы і кіно, патрапляла пад яго з'едлівую крытыку. Ён сам прызнаваўся, што не ўспрымае нічога новага...

Да 45 гадоў ён узначальваў прыватную турфірму, дзе не столькі працаваў, колькі бавіў час. Але пакрысе яму надакучыла нават гэта, і ў мінулым годзе ён вырашыў кінуць усё і не займацца нічым. Логіка была простая: на пенсію трэба выходзіць, пакуль малады адносна, здаровы, поўны сілы.

Так у 45 гадоў, не абцяжараны матэрыяльна, ён перитварыў сваё жыццё ў бязбеднае існаванне. Гэта была поўная матэрыяльная і духоўная незалежнасць ні ад кога і ні ад чога. Тым больш, весці такі лад жыцця было яму лёгка і проста — сродкі дазвалялі. Яму само ўпала ў рукі тое, чаго іншыя так упарта і такім вялікім коштам дамагаюцца. Яго бацька, вядомы ў свой час архітэктар Яравы, які, праўда, не столькі набудаваў, колькі наламаў, прынёс больш шкоды, чым карысці, і гэтым пакінуў пасля сябе нядобрую памяць, што, аднак, зусім не перашкодзіла яму геніяльна спраектаваць уласны дабрабыт. Дзвюм жонкам, дзвюм дочкам (адна цяпер жыла ў Аўстрыі, другая ў Аўстраліі) і адзінаму любімчыку-сыну ён пакінуў спадчыну: дом, дзве дачы, тры кватэры, а таксама кругленькую суму, якую паспеў перагнаць у валюту і вывесці за межы радзімы ў надзейны еўрабанк, паспяхова абмінуўшы дэфолты і інфляцыі. Менавіта за гэтую суму паміж сёстрамі цяпер вяліся звады, ішлі нейкія бясконцыя суды і разборкі. Аўстрыйка ніколі тут не з'яўлялася, а аўстралійка з перыядычнасцю раз на год прылятала з свайго зялёнага кантынента. Гэта была сапраўдная аўстралійская змяя. Калі яна, не міргаючы, халадна глядзела на Інгу, тую паралізоўвала, як гіпнозам. Сам Яравы ў разборках не ўдзельнічаў, бо, па-першае, стаяў вышэй за мышыную мітусню, а па-другое, яго доля ў завяшчанні была абумоўлена персанальна, і яму нічога не пагражала.

Інга пазнаёмілася з ім 5 гадоў назад у Піцундзе. Яны, студэнты-выпускнікі Белдзяржакадэміі мастацтваў, у якой тады ўпершыню з'явілася спецыяльнасць «Кінатэлезнаўца. Сцэнарыст. Рэдактар», здымалі ў гарах дыпломны дакументальны фільм, а Яравы прыехаў лячыцца ад захворвання правага лёгкага — дактары паралі не ў сухі Крым, а сюды, дзе ў містычных ваколіцах возера Рыца сусветна вядомы рэліктавы сасновы бор з гаючым, лекавым паветрам.

Ён хутка пазнаёміўся з землякамі-студэнтамі, назіраў, як праходзяць здымкі, вечарамі сядзеў з моладдзю каля вогнішча — чорная паўднёвая ноч, камары і цыкады, слухаў вечную гісторыю пра маладую абхазку, якая ад кахання ўтапілася ў возеры, і гэта не здавалася яму банальным, — як раптам адбыўся трагічны выпадак: загінуў, сарваўшыся са скалы, малады рэжысёр. Фільм згарнулі, здымачную групу распусцілі, усе раз'ехаліся, а Інга засталася. <...>

Скончылася тым, што з Піцунды Яравы вярнуўся не толькі з вылечаным лёгкім, але і з маладой красуняй-нявесткай — «па каўказскім звычаі».

І вось ужо 5 гадоў яны мірна жылі ў сваім двухпавярховым невялікім дамку. <...> У іх была шырокая тэраса, любімае месца, дзе яны многа праводзілі часу, асабліва як крыху пацяплее. Сюды, на тэрасу, Інга прынесла рукапіс.

— Толькі, калі ласка, да заўтра. Я затрымліваю людзей.

І пайшла спаць, яна рана клалася. Муж паглядзеў ёй услед, узыхнуў і, паслініўшы палец, адгарнуў тытульную старонку.

Назаўтра раніцай яны сустрэліся на тэрасе. Быў цудоўны сакавіцкі ранак. Ішла вясна, радасная пара. Але не для Інгі. Вясна, асабліва ранняя, прыносіла з сабой алергію. На вясновым актыўным сонцы падсыхалі пасля зімы і насіліся ў паветры рэагенты. Інга пакутвала, чыхала, кашляла, у грудзях пяршыла. Толькі кроплі — любімыя, надзейныя, заўсёды памагалі. Кожны год трэба было пераходзіць на іх, як на летняе адзенне. Флакон з кроплямі пасяляўся ў яе сумачцы, або, як цяпер, яна трымала яго заціснутым у далоні, нібы губную памаду. Яна дачакалася, пакуль муж паснедае (яечня, храбусткія, тонкія, да сухасці падмажаныя кавалачкі сала, белы хлеб з маслам і мёдам) і дап'е каву. Збоку каля яго на стале ляжаў рукапіс.

Тэлевізар быў уключаны і гаварыў ціха. Паказвалі Ямала-Ненецкую акругу, снег, аленяў, сабак-лаек, ярангі. Маскоўская журналістка дапытвалася ў безбародага аленявода, нібы стараюся выведаць ваенны сакрэт: як вы, паўночныя людзі, прадказваеце марозы? Хітры ямала-ненец адказваў: «А сцоцкі сцыплет — вот і молоз». У садзе радасна перагукваліся птушкі. Ранішняе сонца наўскос клалася на дрэвы, на зямлю, на сцяну дома. На дрэвах яшчэ не было лісця, таму ценю было мала, і здавалася, што сонца задужа многа. Муж дапіў каву і, закрываючыся далоняй ад святла, то перагортваў старонкі, то загадкава пазіраў на жонку.

— Што ўва мне не так? — хмурачыся, спытала яна, выдатна ведаючы, што ён проста любуецца ёю. Часта ў якасці камплімента кажуць: выглядае маладзей за свае гады. А трэба, каб чалавек адпавядаў свайму ўзросту. Інга выглядала роўна на свае 30. Усё ў ёй было гарманічна, усяго ў меру: касметыка — някідкая, але дарагая, адзенне — строгі офісны стыль: чорнае з белым, прычоска-карэ пасавала да славянскага твару з чыстай скурай. Ад яе заўсёды прыемна пахла. Сваімі нейкімі надзвычай цнатлівымі рухамі і паводзінамі яна нечым нагадвала манашку, якая ведае сабе цану, але вымушана стрымліваць сябе. Што да мужа, дык за 5 гадоў ён так і не прывык, што яна цалкам яго. Ён, як і раней, кахаў яе ціхай спакойнай любоўю, якая замяняла яму ўсё, і не ўяўляў, як можна інакш.

— Што скажаш? — спытала яна.

— Не Спілберг і не Феліні, але цікава. Якасны тэкст. Я б сказаў, камерны. Знікаючая натура. Артхаўз.

— Такая была ўмова конкурса. Мы не пацягнем большага.

Тэлевізар ціха гаварыў паралельна з імі. «Как яблоцко сцоцки класнеют», — цярпліва тлумачыў настырнай журналістцы ямала-ненец. Інга націснула на чырвоную кнопку пульта.

— Ты верыш, што гэта напісаў васямнаццацігадовы хлопчык?

— Чаму не. Цяпер творчаму чалавеку зусім неабавязкова мець жыццёвы вопыт. Пры такой масавай інтэрнэтазацыі можна здабыць любую фактуру, пачынаючы з дзіцячага садка. Што цябе бянтэжыць? — з усмешкай спытаў муж.

— Плагіят.

— А калі так паставіць пытанне: якая розніца? Па вялікім рахунку, усё нашае жыццё плагіят. Мы маем якасны прадукт — тэкст. Гэта галоўнае. А хто яго стварыў, ці не ўсё роўна? Марк Твэн казаў...

Яна перабіла:

— Чым лепшы сцэнар, тым большая верагоднасць, што ад яго нічога не застанецца.

— Але нашто так далёка заглядваць? Гэта ж не справа журы. Вам трэба ацаніць твор. А ўжо зробяць з яго фільм, ці, як звычайна, скалечаць — гэта вас не тычыцца. Не трэба блытаць сцэнар і фільм.

Інга зморшчыла кірпаты нос, збіраючыся чыхнуць. І чыхнула.

— Пада́й, калі ласка, сурвэтку.

— Будзь здарова. Ты ж ведаеш, што табе паможа. Горнае паветра, плюс марское, — сказаў муж. — Я цябе павязу сілаю.

Кожны год, нават два разы на год, яны выбіраліся на Поўдзень, і там ад хваробы сапраўды не заставалася следу.

— Што ты збіраешся рабіць? — спытаў ён.

— Цярпець. Прымаць гістаміны. Капацца, — яна расціснула далонь і падала яму цёплы флакончык.

— Я сцэнар ма́ю на ўвазе.

— Я хачу з ім сустрэцца. І паглядзець яму ў вочы. Зразумець, што ён з сябе ўяўляе. Я не павінна была б гэтага рабіць, але...

— А нельга яго запрасіць да нас?

— Не кажы абы-чаго.

— Шкада, што нельга зняць на камеру.

— Не будзь малым дзіцём.

Інга ўстала, выцягнула з мужавых пальцаў флаконік, які ён паспеў прысвоіць, увогуле маючы звычку блытаць сваё і чужое, узяла са стала рукапіс.

— Дзе аловак?

— Вось, прабач.

Яна пайшла, але спынілася і спытала:

— Ты ўсё ведаеш. Чаму лятаюць у сне?

Ён пачаў ахвотна і дэталёва, як той ямала-ненец цікаўнай журналістцы, тлумачыць, што засновальнікі псіхалогіі разглядвалі гэта пад рознымі ракурсамі: Фройд, як заўсёды, звязваў з сэксуальнымі памкненнямі, Альфрэд Адлер — з жаданнем прыгнятаць іншых, Карл Юнг — з імкненнем вызваліцца ад абмежаванняў і разарваць рамкі ўмоўнасцяў...

— Не, — перабіла яна. — Мне больш падабаецца прымітыўна-дзіцячае. Што гэта памяць пра нашы ранейшыя жыцці...

# Мы круг жыцця адвечны не замкнулі



Зінаіда ДУДЗЮК

## Мера

*У двубоі эпох катастрофы
скасоўваюць свет,
Толькі свецяцца вочы
людскія даверам.
Між жывых і між мёртвых
праходзіць самотна паэт,
Боль выносячы ў сэрцы
поўнаю мерай.*

*На праклятых шляхах,
дзе размыты мінулага след,
Вые нема туга знелюдзелая
зверам.
Пракрычыць ці праплача
адчайную песню паэт,
Вымяраючы вершы
выключнаю мерай.*

*За любоў да народа
і роднай зямлі,
За адважныя пошукі праўды-хімеры
Незлічона паэтаў сапраўдных звялі
На той свет праз суды
і вышэйшую меру.*

*...Ды нязводнае сонца адродзіць
зямлю,
І пачнецца інакшая, новая эра.
Зноў планета прамовіць узнёсла:
«Люблю!»
І народзіць паэтаў шчодраю мерай.*

## Балада дабрыні

*Расла нічыя
сярод поля шырокага
дзічка старая
ўдавой адзінокаю.
Вятры яе рукі
круцілі, ламалі.
У слоту дажджы,
нібы пугі, хвасталі.
Ні стогну. Ні скаргі.
Цярпліва маўчала.
І кожнай вясною
яна расцвітала!
Не, так не цвітуць
за высокім парканам,
дзе, можа, утульней,
ды сонца замала.
Ад дзіўнае белі
поле святлела...
А ўвосень страсала,
страсала з прыполу
дзічкі даспелыя
шчодра да долу,
у іржэўнік калючы,
на вузкія ўзмежкі...
Тады да яе
прабіваліся сцежкі.*

## На гарадзішчы

*Разводдзе сіні і разводдзе траў,
Звініць паветра гоманам птушыным.
Вясёлы конь пасецца на вяршыні,
Бялюткі, бы адліты з серабра.
Пад капытамі глебы тлусты пласт,
Спарыш кудлаты тут спрадвеку родзіць,
А ля падножжа доўгія стагоддзі
Залеглі. Тайнай аклікаюць нас.
Аскепачкам гаршка дзявяты век
Адорыць, як каштоўнасцю вялікай,
Даверыцца дасведчаным разлікам
І ўсім тваім здагадкам, чалавек.
Пажарышчы пазначаць новы слой.
І зноў чытай жыццё ў знаходках дзіўных:
Вось бранзалет падораны адзінай,
Вось нож, што скрыжаваўся са стралой.
І гэты без замка іржавы ключ
Пакінуў продак тут невыпадкова.
Татарская разбітая падкова...
І мёртвы попел вычарніў зямлю.
А вось і найапошні, верхні, пласт,
Што прыхаваў вайны мінулай кулі.
Мы круг жыцця адвечны не замкнулі,
Яно яшчэ цячэ, цячэ праз нас...*

***

*З тваіх вачэй глядзіць каменны век,
Пячорны дух звіваецца між броваў.
Нічога ты не давяраеш словам,
З тваіх вачэй глядзіць каменны век,*

*Я засланюся стомаю павек,
Між мною і табой — сумненняў прорва.
З тваіх вачэй глядзіць каменны век,
Пячорны дух звіваецца між броваў.*

## Дзявочая песня

*Засцілаецца далеч туманам,
Засціць вокны сумота ў жальбе.
Дзе ты, мой дарагі і жаданы,
Як знайсці мне на свеце цябе.
Ападаюць снягі маладыя,
Нібы мяккую сцелюць пасцель.
Толькі ты скажаш словы мне тыя,
Жыць з якімі святлей і прасцей.
Толькі ты, толькі ты... Але дзе ты?
На якое святло я лячу?
Не збываюцца сны і прыкметы,
А пра мару я горка маўчу.
Засцілаецца далеч туманам,
Засціць вокны сумота ў жальбе.
Дзе ты, мой дарагі і жаданы,
Як знайсці мне на свеце цябе?*

## Горад асенні, горад настылы

*Горад асенні, горад настылы,
Льдзіна пасцелі выстудзіць жылы,
Нібы ў магіле на самым дне,
Холадна мне.
Ці засынаю, ці паміраю?
Снам ратавальным сябе давяраю.
Хворае сонца ў акно зазірне.
Холадна мне.
Доўжыцца час без патолі і веры,
Выстудзіў холад людзей недаверам.
Даўняя згадка святло адамкне.
Холадна мне.
Дзе яна, тая пара залатая?
Час анічога назад не вяртае.
Дзякуй, хоць некага восень міне.
Холадна мне.*



Малюнак livemaster.by

## Кайданы

*Жылі ў краіне кавалі,
Яны кавалі, як маглі,
Нарогі ды падковы
На добры лад вясковы.*

*І быў між іх адзін каваль,
Што кайданы адно каваў,
Мо некаму на згубу,
Ды меў сваю рахубу.*

*А зваўся ён Кайданнік.
Ад вечара да рання
Звінелі ў кузні кайданы.
Каму яны? Каму яны?*

*Найгорш бывае на зямлі,
Калі не ладзяць каралі.
Набеглі ворагі здаля —
І стала блага кавалям.*

*Іх закавалі ў кайданы.
Такі парадак у вайны.
У кайданах, што сам скаваў,
Кайданнік век свой дажываў.*

## Вароны

*Абселі тапалю вароны,
Сабраліся, нібы на сход.
Тут нехта між імі — галоўны,
Астатнія — просты народ.*

*Іх горад пажываў паклікаў.
Пад'елі, дык годзе калець.
Зляцеліся зграяй вялікай,
Збіраюцца ў лес на начлег.*

*Завеі не будзе сягоння —
Вядома варонам загодзь.
Таму і марудзіць галоўны.
Астатнім глядзець на яго,*

*І чысціць нямытыя дзюбы,
І снег атрасаць з пінжакоў,
І сцерагчыся ад згубы,
Пакуль невядома якой.*

*Абселі тапалю вароны,
Сабраліся, быццам на сход.
Усё вырашае галоўны,
Чакае панура народ.*

## Сад

*Асірацела голы сад —
Там-сям жаўцее па лісточку.
Зляцела дзіўная краса
З вятрамі дзёрзкімі ўпрочкі.*

*Скупіцца восень на дажджы,
Ды холад па начах даймае,
А сад і ўвосень здатны жыць,
І стынь зімы ператрывае.*

*Такая выпала пара:
Раздаць усё, што назапасіў.
І не шкада таго дабра,
Толькі шкада былога часу.*

*Пасля ў зімовых снежных снах
Намроіць можна дзень свой лепшы,
Калі абудзіць сад вясна
Для ясі, квецені і вершаў.*

***

*Дзе набрацца гадзін,
Каб хапала на вершы і прозу?
Лёсу б як дагадзіць,
Каб збываліся дзіўныя грозы;
Каб усіх зразумець
І пранікнуцца словам і сказам;
Каб адной быць,
Але пажадана, каб з іншымі разам;
Каб спявалася ўдзень
І спакойна спалася ноччу;
Каб нічым і нідзе
Не стамляліся сэрца і вочы.
Жыць і жыць... Хоць і гінуць,
Ды зноў нараджацца.
Вось такое яно,
Недасяжнае нашае шчасце.*



Фота azbuca.com

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (193), верасень 2022 года

# Апошні восеньскі ліст



Таццяна САДОХА



Фота pixabay.com

І вось зноўку я пішу табе ліст, які наўрад ці калі-небудзь адпраўлю. Твае рукі не будуць трымаць гэты аркуш, а прыгожыя блакітныя вочкі не прабягуцца па ягоных радках. Таму я магу спакойна пісаць пра ўсё тое, што даўно цяжкім грузам ляжыць на маёй душы, турбуе сэрца і займае паўсядзённыя думкі. Ты не са мной. А я — ужо не твой. Нашыя шляхі разышліся. Мы ладзім жыццё адзін без аднаго.

Доўгі час я быў перакананы, што выраз «Ёсць людзі, якім наканавана змяніць наш лёс» — лухта. Маўляў, кожны чалавек — закладнік уласных думак, учынкаў, выбару, успрыняцця і адчуванняў. Мы ніколі да канца не зразумеем усіх, каго сустракаем на жыццёвым шляху. Часамі мы нават самі сябе не разумеем. Дык як можна казаць, што той або іншы чалавек можа змяніць нашае жыццё і наш лёс?.. З горыччу адзначаю: я памыляўся.

Тут, на беразе Чорнага мора, думаецца лепш. Мая жонка прыносіць мне кубак кавы. Усміхнуўшыся, я дзякую ёй, а затым цалую ў шчаку. Мы гаворым пра сёе-тое. Я імкнуся нічым не выдаць свой стан. Яна ціха адыходзіць — заплакаў наш сын. Я ўглядаюся ў далячынь, туды, дзе мора злучаецца з небам, ружовым, як шалік, што быў на табе ў дзень нашай першай сустрэчы.

Ты пазнілася. Час ішоў. Я яшчэ не ведаў, што вось так прабягаюць апошнія хвіліны майго самаснага існавання, майго жыцця без цябе. Па шчырасці, ты з'явілася ў той час, калі я ўжо не разлічваў сустрэць каго-небудзь больш-менш блізкага. Я не хацеў ісці на сустрэчу з сябрамі — не бачыў сэнсу ў бяздумным праседжванні на лаве з келіхам піва ў руцэ. Але пайшоў. Чаму? Можа быць, мы ніколі і не сутрэліся б, не пазнаёміліся б, і жыццё маё склалася б зусім іншым чынам? Без цябе. Я ніколі не думаў пра гэта. Бо заўжды быў ўдзячны той хвіліне, калі мы ўпершыню ўбачыліся.

Цікава, цяпер я ні ў якім разе не прыгадаю, якая дата была на календары, колькі паказваў мой гадзіннік, якое было надвор'е. Але тваю шчырую ўсмешку, што, нібыта сонейка, асвяціла ўсё навокал, здаецца, не змагу забыць. Ты з'явілася, і ўсё нібыта ажыло, зайграла новымі, яркімі фарбамі. Прыгожая, ветлівая, упэўненая — ты пачала вітацца з кожным, хаця большую палову прысутных не ведала. Чарга дайшла да мяне. Прамовіўшы сваё імя, ты паціснула маю руку. А затым нашыя вочы сустрэліся. Ведаеш, я так і не разумею, як гэта адбываецца. Дастаткова ўсяго аднаго імгнення, таго самага, калі сустракаюцца позіркі, каб зразумець, ці здолеў чалавек пранікнуць у самую душу. І колькі б ты далей не пазнаваў чалавека, усё адно — назаўсёды запомніцца толькі той самы момант, калі вы паглядзелі ў вочы адзін аднаму. Гэтыя ўспаміны саграваюць маю душу. Колькі б кіламетраў паміж намі не было, ты назаўжды застанешся ў маім сэрцы. Такая ж, як у той першы дзень.

Думкі мае, аднак, прыпыняюцца. Жонка збіраецца на шпацыр з сынам. Просіць дапамагчы вынесці каляску. На прапанову прайсціся ўсім разам адказваю адмовай. Кажу, што хачу папрацаваць. Яна глядзіць мне ў вочы, нібыта імкнецца прачытаць у іх адказ. Разумеючы, што ёй лепш яго не ведаць, я весела ўсміхаюся, абдымаю і кажу, што кахаю. Здаецца, без цябе слова гэтае страціла свой сэнс. Яшчэ колькі хвілін гляджу ёй услед, яна азіраецца, нібыта хвалюецца, што пакуль яе не будзе, я магу сысці назаўжды. Я разумею гэта, і таму ўсё з той жа ўсмешкай махаю ёй рукой. Яе стан амаль зліваецца з гарызонтам, і я вяртаюся ў хату. Бяру недапіты кубак кавы і выходжу на веранду. Адсюль адкрываецца прыгожы від на мора і горы. На моры поўны штыль. А значыць, у мяне яшчэ шмат часу, каб напісаць табе гэты ліст.

...Я не ведаў, як цябе знайсці. Спрабаў запытвацца ў сяброў, але яны толькі жартавалі, і на гэтым нашыя гутаркі звычайна заканчваліся. Мне было вядома толькі, што ты жывеш у сталіцы, вучышся ва ўніверсітэце. Таму, прыязджаючы на сесію ў Мінск, я ўглядаўся ў твары незнаёмых, але падобных да цябе кабет — верыў у лёс. Ён ужо аднойчы дапамог нам сустрэцца, дык чаму ж не дапамагчы зноў? Гадзіны зліваліся ў дні, дні ў тыдні, тыдні ў месяцы і гэтак далей. Жыццё маё зноўку вярнулася ў звыклае рэчышча. Праца, кампутар, кнігі, кіно — шэрая руціна. Але твой вобраз ніяк не пакідаў маіх думак.

Аднойчы я пачуў, што ты прыязджаеш і мы зноўку ўбачымся ў адной кампаніі. Па шчырасці, спачатку не ведаў, як на гэта рэагаваць. Столькі слоў надумаў, столькі сітуацый пракруціў у галаве, столькі масак на сябе насунуў. А цяпер не ведаў, якім з табой быць і пра што размаўляць. Моцна захацелася адмовіць і не пайсці. Але ж гэта шанец! Напярэдадні, ноччу, нават не мог спаць. Некалькі разоў мерыў крокамі пакой. Думаў. Да нашай сустрэчы заставаўся ўсяго адзін дзень.

Зранку я ўстаў і начыста пагаліўся, апрануў новы касцюм, начысціў чаравікі, паспрабаваў нават зрабіць укладку гелем. Цяпер смешна гэта ўспамінаць, бо, напэўна, толькі раз у сваім жыцці так рыхтаваўся да мерапрыемства. Праўда, ты, здаецца, нічога не заўважыла, бо пры сустрэчы нават не паглядзела ў мой бок. Злёгку кіўнула — і ўсё. Я ж не мог не адзначыць тых зменаў, якія адбыліся з табой за гэты час: ты стала больш упэўненай, позірк твой — больш адкрытым, а ўсмешка — больш ласкавай. Твая падманная абыякавасць адразу кідалася ў вочы. Чамусьці ты іх адводзіла. А калі нашыя позіркі ўсё ж такі сустракаліся, то ты чырванела. Нібы дзіцетка — такое наіўнае і сарамлівае, альбо анёлак, які прызямліўся тут, на нашых землях. Назіраць за тым, як вакол цябе гуртуюцца людзі, мне было дужа прыемна. Я ні раз чуў, што ты цудоўны чалавек, але хацелася спазнаць усё гэта самому, без пасярэднікаў. Разумеў, што ўсяго толькі трэба ўзяць тваю руку, моцна абняць, і ты, такая халодная і непрыступная, адтаеш, здолееш мне даверыцца. Так і адбылося. Здаецца, я і цяпер адчуваю, як грукатала маё сэрца ў той момант, калі я запрасіў цябе патанцаваць. Дзякуй Богу, што не дрыжэў голас, а то было б няёмка. Нарэшце я дакрануўся да цябе — рэальнай, а не ўяўнай, адчуў пяшчоту тваёй скуры, напружанне на кончыках тонкіх пальцаў. З гэтага дня я ўжо ведаў твой водар — сумесь карыцы з дамаскай ружай. Хацелася патануць у ім з галавой.

Цяпер і не прыгадаю, пра што мы размаўлялі — усё гэта былі дэкарацыі, набор бяздумных гукаў, што зліваўся ў сказы, бо так трэба, прынята. Ты распавядала нешта пра студэнтаў, з якімі працуеш, пра сяброўак, з якімі дзеліш інтэрнацкі пакой, пра кнігі, якія заўзята чытаеш. Я спрабаваў цытаваць тое-сёе з замежнай класікі, адказваў на твае жарты. Затым мы спрачаліся пра футбол, мастацтва і здольнасці. Канец гэтага дня мы правялі ў адбымках адзін з адным. Ты спакойна пасапвала на маім плячы, а я так і не змог заплюшчыць вочы, бо баяўся, што раскрыю — іх і цябе больш не будзе побач. Здаецца, гэта называецца платанічным каханнем.

А назаўтра ты з'ехала, нават не развітаўшыся. Я так і не зразумеў, ці значыла гэта для цябе што-небудзь. Затым ты далучыла мяне ў адну з сацсетак, тым самым паставіўшы ў адзін шэраг з дзвюма сотнямі людзей, што былі ў статусе тваіх «сяброў».

Пасля пачалася наша перапіска ў інтэрнэце, у якой я імкнуўся паказаць, што для мяне не маюць ніякага значэння нашыя зносіны. Цябе гэта чапляла, мяне — радавала. Значыць, усё ж такі табе не ўсёроўна! Я быў халодны ў паведамленнях, ты — пры сустрэчах.

Што б там ні было ў нашых лістах, але я моцна цябе чакаў. Мне здавалася, што гэта ўжо стала сэнсам майго жыцця, а гады без цябе ўжо і не былі маім жыццём.

Людзі сталі мне нецікавымі. Я больш не бачыў сэнсу ў падтрымцы стасункаў са многімі колішнімі сябрамі і ўсё часцей лавіў сябе на думках, што размаўляю з тваім вобразам. Пры гэтым, з вобразам, які сам сябе маляваў. Я праглядаў твае здымкі, успамінаў тваю ўсмешку, голас, і мне станавілася цёпла і светла. Час ад часу я думаў, што не дацягваю да твайго ўзроўню — ты была надзвычай непрыступнай, і я не ведаў, у чым прычына. Мне карцела як мага хучэй разбіць усе тыя сцены, што мы самі панабудавалі паміж сабой.

Успамінаць становіцца цяжка. Адчуваю, як пачынаю нервавацца. Каб крыху супакоіцца, бяздумна соваюся па пакоі. Гляджу, як павольна плывуць хвалі. Аднекуль і некуды. Здавалася, на крымскім беразе, высока ў гарах, усё забудзецца, вылечыцца, сатрэцца з памяці. Эфект атрымаўся адваротны: менавіта тут я здолеў застацца сам на сам са сваімі думкамі.

Аказалася, што ўспаміны, звязаныя з табой, больш не прыносяць болю, а робяць мяне шчаслівым. Бо сустрэць сапраўднае каханне здолее не кожны. А каханне бывае розным. Не абавязкова самае моцнае каханне будзе ўзаемным. Калі я гляджу на сваю жонку, то ўсё больш пераконваюся ў гэтым. Можа, і ў нас магло б так быць? Ты бачыла б, як я цябе кахаю, і таксама была б шчаслівая? Часам асэнсаванне прыходзіць празмерна позна. Прызнацца ў сапраўдных пачуццях нам перашкаджае гордасць. Асабліва ў маладосці. Нешта падобнае стала вырашальным і для нашых стасункаў. Але пра ўсё па парадку.

Наступным разам мы сустрэліся зімой. Ты глядзела на мяне з-пад апушчаных павекаў. А я назіраў, як на твае валасы падаюць сняжынкі. Моцна хацелася цябе прыгарнуць і сагрэць, папіць з табой кавы, пагутарыць, пасмяяцца. А лепш спаіць. Абы быць толькі з табой, нікуды не адпускаць, адмяніць цягнік, выкінуць білет.

Памятаю, як абдымаў цябе ў нейкім цёмным пакоі, нечай кватэры. Мае рукі мякка дакраналіся да тваёй бархатнай скуры, спіны, шыі. Я моцна баяўся, што зраблю табе балюча ці абражу. Мае вусны прагнулі тваіх — такіх мяккіх і салодкіх. Колькі слоў я нагаварыў у той дзень. Казаў, што змагу змяніць тваё жыццё, калі ты проста пусціш мяне ў яго. Прасіў застацца са мной. Бажыўся, што ніхто, акрамя цябе, мне ніколі па-сапраўднаму не падабаўся. Абяцаў, што калі ты надумаеш пабрацца з кім-небудзь шлюбам, то, нібыта герой з кінафільма, уварвуся ў залу і выкраду цябе; ты абяцала зрабіць тое ж самае. Я верыў. Сэрца ў маіх грудзях моцна грукатала. Ты адчувала гэта і з усмешкай прамаўляла, што я закахаўся. Я пагладжваў твае валасы, што спадалі на твар, і маўчаў. Затым ты глыбока ўздыхнула, адхіліла маю руку і, выразна

Заканчэнне на стар. 7 »

# Апошні восеньскі ліст

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6



Фота winallos.com

вымаўляючы кожнае слова, прашаптала, што кахаеш іншага. Я адразу адчуў моцны боль, спачатку ён лакалізаваўся ў скронях, затым забалела ў грудзях, у горле ўтварыўся камяк, што перашкаджаў мне вымавіць хаця б адно слова. Я моцна ўдарыў кулаком па сцяне.

Толькі праз імгненне я зног авалодаць сабой. Я чуў, што ты нешта казала, але не асэнсоўваў, што і навошта. Ты прапаноўвала нам стаць сябрамі. Я і да гэтага часу не магу зразумець, што кіравала табой у тую хвіліну.

Сябрамі мы так і не сталі, не засталіся нават простымі знаёмымі. Той вечар парваў усё тое, што звязвала нас. Усяго некалькі слоў, і вось ён — кошт, па якім мы разлічваемся да гэтага часу.

Спачатку я моцна цябе ненавідзеў, а затым у мяне нарадзіўся думка, што я павінен табе адпомсціць. Я хацеў, каб ты пакутавала, як я ў той вечар, нават яшчэ больш. Я марыў пра тое, як ты будзеш валяцца ля маіх ног, а я буду гэтаксама таптаць твае мары, здзеквацца з цябе. О… як я чакаў моманту расплаты…

У хуткім часе я ўсё ж такі адпомсціў, але задавальнення мне гэта не прынесла.

Моцна грукаю кулаком па сцяне. Акурат як у той раз. Але цяпер злуюся сам на сябе, за сваю нікчэмнасць. Машынальна гляджу на гадзіннік. Колькі часу мінула з таго моманту, як жонка з сынам пайшлі на шпацыр? Затым адводжу позірк да мора — там усё яшчэ ласкава свеціць сонейка. Праўда, з супрацьлеглага боку, на Аю-Даг, насоўваюцца хмары. Мне хацелася б, каб ты таксама ўсё гэта ўбачыла. Але цяпер, недзе ў восеньскім Мінску, перад тваімі вачыма прасціраецца зусім іншы пейзаж. Адчуваю, як у скронях пачынае пульсаваць боль. Часу ў мяне яшчэ хопіць. Трэба ўзгадаць усё, а пасля, мажліва, адправіць табе гэты ліст.

Мы расталіся, нібыта дзеці. Кожны з нас так і не сказаў галоўных слоў. У той момант мы абодва былі абураны, між намі стаяла гардыня, мы нават не ўсведамлялі, што гуляем з нашымі лёсамі. І вярнуць што-небудзь будзе ўжо немагчыма.

…Я адчуваў на сабе твой позірк, але наўмысна не глядзеў у твой бок — ты была мне агідная. Як я мог цябе кахаць, баяцца дакрануцца да цябе, марыць пра цябе? Гэта быў твой вобраз, які я сам сабе і прыдумаў, а ты, нахабная і эгаістычная, сядзіш насупраць і пазіраеш на мяне. Нельга было не заўважыць, як дрыжаць твае рукі. У нейкі момант я ўбачыў, што ў тваіх вачах стаяць слёзы. Чаму ж ты плачаш, калі кахаеш іншага? Я не дазваляў сабе пра гэта думаць, як і не дазваляў шкадаваць цябе. Я спецыяльна распачаў жвавую размову з дзяўчынай, што сядзела побач, а ў хуткім часу палажыў руку на яе талію. Мне моцна хацелася, каб ты за гэтым назірала. А яшчэ больш мне хацелася, каб ты навучылася адказваць за свае словы і ўчынкі. Даверлівая і наіўная, ты ўспрымала жыццё як казку — вось і надышоў час зняць ружовыя акуляры. У хуткім часе ты паглядзела мне ў вочы і сышла. Гэта была наша апошняя сустрэча. Ноч я правёў з той дзяўчынай і зрабіў усё мажлівае, каб ты пра гэта даведалася.

Затым ты яшчэ доўга закідвала мяне лістамі — маўляў, я ўсё няправільна зразумеў, ты не тое мела на ўвазе, увогуле, ты да мяне надзвычай сур'ёзна ставішся, я выклікáў у табе сапраўдныя эмоцыі і гэтак далей. Я вырашыў не адказваць ні на адзін з іх, бо разумеў, што няма нічога больш крыўднага за абыякаваць. Нават самы кепскі адказ лепшы за маўчанне. Спачатку ты пісала часта і шмат. Я не магу сказаць, што мяне не кранал твае словы. Тым не менш, я быў моцна пакрыўджаны і цвёрда вырашыў табе адпомсціць. Неўзабае надышоў момант, калі ты перастала пісаць. Але звычка правяраць паведамленні ў мяне ўсё адно засталася.

Праз некаторы час я зразумеў, што трэба канчаткова навучыцца жыць без цябе. Зрабіць гэта, аднак, было вельмі складана. Азірнуўшыся, я падлічыў, што з дня нашай апошняй сустрэчы мінула больш за два гады. Я быў упэўнены, што ў цябе сваё жыццё і наўрад ці ў ім знойдзецца месца для мяне. Я вырашыў зрабіць прапанову дзяўчыне, з якой знаходзіўся ў пазашлюбнай сувязі, той самай, з якой пазнаёміўся на тваіх вачах. Я разумеў, што калі ты пра гэта даведаешся, табе будзе балюча. А ў такім разе, мажліва…

Вяселле было прызначана на жнівень. І чым бліжэй надыходзіў час да пазначанай даты, тым больш я ўсведамляў, якую памылку раблю. Я ўспамінаў, як мы паабяцалі парушыць вяселле адзін аднаму. Спадзяваўся, што гэта былі не проста словы. А калі даведаўся, што акурат на гэтыя дні ты прыехала дадому, то сумненняў у мяне не засталося.

У ноч перад роспісам я не мог заснуць. Ад традыцыйнага класічнага касцюма вырашыў адновіцца. Мне трэба было апрануць нешта зручнае, бо ўсё, што адбывалася, было для мяне ўсяго толькі бутафорыяй. Раніцай, моцна ўзбуджаны, я імкнуўся разгледзець цябе ва ўсім тым малазнаёмым натоўпе людзей. Цябе не было. Мы фатаграфаваліся, смяяліся і пілі шампанскае, а я ўвесь гэты час чакаў… Цябе… Глядзеў на гадзіннік.

Я адчуваў, як усё мацней грукоча ў грудзях сэрца, калі нашая машына прыпынілася побач з ЗАГСам. Я нерваваўся і ўсё мацней сціскаў руку маёй нявесты. Калі мы выйшлі з машыны, глядзеў па баках, шукаў тваю постаць, пазіраў на ўваход, але дзверы так і не адчыніліся. Затым машынальна казаў «так», абменьваўся пярсцёнкамі, станавіўся на ручнік, прымаў віншаванні. Я ўжо не чуў і не ўспрымаў тое, што мне казалі. Ты не прыйшла. Значыць, забыла пра мяне і пра нашыя абяцанні. Значыць, я не памыліўся, думаючы, што ўсё гэта для цябе гульня. Мне не хацелася ў гэта верыць. Мажліва, цябе раптоўна выклікалі на працу, або трэба было ад'ехаць па важных справах, а можа быць, ты захварэла. Затым да мяне дайшло: ты не ведала часу, на які было прызначана вяселле! Дакладна! Адкуль ты магла пра гэта ведаць? А стаяць цэлы дзень побач з ЗАГСам, зразумела, не будзеш. Напэўна, проста размінуліся.

Магчыма, наіўна, але мне і да гэтага часу хочацца верыць, што гэта проста збег абставінаў. Так альбо іначай, у шлюбе я ўжо тры гады. У снежні ў нас нарадзіўся сын. Я ведаю, што твой дзень нараджэння таксама ў гэтым месяцы, і не раз, пакуль мая жонка выношвала дзіця, марыў, што яно народзіцца дзень у дзень з табой. Усё ж такі я баюся, што з цягам часу магу забыць дату, калі ты з'явілася на свет.

Выдыхаю і заплюшчваю вочы, бо далей, здаецца, гаварыць ужо няма пра што. Перада мной праносіцца віхор падзеяў, што адбываліся ў той ці іншы момант, усе яны нібыта часцінкі пазлу пад назвай «маё сучаснае жыццё». Я не магу сказаць, што цяпер я нешчаслівы — не, усё нармальна, звыкла. Так жыве большая палова насельніцтва нашай зямлі. Кожны дзень я старанна выконваю ролю ўзорнага сем'яніна, а ноччу хаваюся ў кампутары — кажу, што працую, а сам чытаю навіны з тваёй старонкі ў сацсеціве. Там афарызмы, спісы прачытаных табою кніг, розныя трэкі, а таксама фотаздымкі з вандровак. На іх твой позірк шчаслівы і пяшчотны. Міжволі я лаўлю сябе на думцы, што раўную цябе да таго, хто стаіць за аб'ектывам і на каго ты так глядзіш. У гэткім жыцці ты знайшла сябе. Я ж ужо, напэўна, больш цябе не знайду, і ці ўбачу калі-небудзь — пытанне.

Скрозь цемру заплюшчаных павекаў прабіваецца яшчэ адна карціна. Я еду на машыне па дажджлівым Мінску, прыпыняюся на светлафоры, чакаю, калі загарыцца зялёны, машынальна паварочваюся ўправа — і бачу цябе. За вокнамі залатая восень — акурат, як у дзень нашага знаёмства, на табе паліто ў тон вогненных лісцяў, а ў руках парасон, які моцна хістае вецер, і ты, усміхаючыся, спрабуеш яго ўтрымаць, затым пераводзіш позірк на светлафор, а пасля на маю машыну. На імгненне нашыя вочы зноўку сустракаюцца. Затрымаўшыся на пераходзе, углядаешся ў вокны майго аўто. Так праходзіць некалькі хвілін. Затым, зліўшыся з натоўпам, ты хуценька праходзіш міма, я ж чую сігнал суседняй машыны.

Прыпаркаваўшыся на бліжэйшай стаянцы, бягу на тое месца, дзе, здаецца, яшчэ вітае водар карыцы і дамаскай ружы, пасля спускаюся ў метро, аднак абодва цягніка адышлі літаральна хвіліну таму. Прабягаюся па навакольных дварах, але цябе няма і там. Пазней, ужо седзячы ў машыне, я ўспамінаю, што ў цябе кепскі зрок і ты прынцыпова не носіш лінзаў. Значыць, убачыць мяне не магла. Ды ці была гэта ты ўвогуле?

Зразумеўшы, што больш не магу знаходзіцца з табой у адным горадзе, што пачынаю накручваць сябе і паціху з'язджаю з глузду, уверачы таго ж дня я прапанаваў сваёй жонцы з'ехаць куды-небудзь. Ты неаднаразова расказвала, як моцна любіш Крым, я вырашыў пашукаць адказ, чаго…

Літаральна праз дзень мы накіроўваліся ў Ялту…

Я чую, як у дзвярным замку паварочнаецца ключ. Вось і ўсё. Адправіць ліст я зноўку не паспею. Дзверы адчыняюцца, і да мяне бяжыць сын. Я бяру яго на рукі, абдымаю жонку і кажу, што сумаваў. Па кім, не ўдакладняю. Адчайна адзначаю, што нічога не зменіцца. Я яшчэ доўга буду цягнуць гэтую лямку. А ты так і не даведаешся, як я кахаю цябе ўвесь гэты час. Хаця не ўпэўнены, што гэта табе патрэбна.

Жонка пачынае хадзіць па пакоі і распавядае, як прайшоў шпацыр. Я не слухаю, толькі ківаю. Ты была так блізка, здаецца, працягну руку — і здолею дакрануцца… Я ўсё разую. Усё. Абодва мы вінаватыя. Але ўсё ж такі…Чаму ты так сказала ў той вечар? Цяпер я адчуваю, што каханне было ўзаемным. Але ж чаму ты так сказала? Чаму…

Твой вобраз нібыта ў рэальнасці аддаляецца ад мяне. Ты бяжыш і становішся бліжэй да таго месца, дзе, нібыта твой шалік, ружавее неба, а затым паварочваешся і ўсміхаешся. Ты далёка. Раптам мне прыгадваецца: ты казала, што моцна любіш Судак, і менавіта там знаходзіцца палова тваёй душы.

Я паднімаюся з крэсла, крочу да жонкі і кажу, што заўтра нас чакае вандроўка, мы пабачым Генуэзскую крэпасць, а пасля пройдземся шляхам Галіцына. Яна радасна пляскае ў далоні. Я цяжка ўздыхаю і чакаю, калі ж надыдзе заўтрашні дзень.

# Права верыць



Дзяніс СІДАРОК

***

*Нам заўсёды Х-О-Ч-А-Ц-Ц-А*
*бачыць Н-Е-Ш-Т-А,*
*чуць Н-Е-К-А-Г-А,*
*марыць пра Ш-Т-О-С-Ь-Ц-І.*
*Нам заўсёды хочацца В-Е-Р-Ы-Ц-Ь,*
*Што ва ўсё, безумоўна,*
*закладзены нейкі С-Э-Н-С.*

*І чым болей пытанняў мы М-А-Е-М, —*
*Тым меней А-Д-К-А-З-А-Ў,*
*А жыццё Н-Я-Ў-М-О-Л-Ь-Н-А*
*спяшаецца сонцу У-С-Л-Е-Д.*

*Заўтра можа Н-Е Б-Ы-Ц-Ь,*
*але гэта нічога Н-Е З-М-Е-Н-І-Ц-Ь.*
*Мы ўсёроўна ствараем*
*С-А-М-І заўтра С-В-А-Ё.*

*І імчыцца да З-О-Р-А-Ў далёкіх*
*скрозь Х-В-А-Л-І і С-Ц-Е-Н-Ы*
*Ці то Ч-О-В-Е-Н наш хісткі,*
*ці то К-А-Р-А-Б-Е-Л-Ь.*

***

*Наш лёс не прапісаны —*
*толькі а-з-н-а-ч-а-н-ы,*
*Наш выбар наперадзе —*
*выбар в-а-ж-н-ы —*
*Паверыць нарэшце —*
*нічога не страчана,*
*Усё ў нашых руках*
*і ў сэрцах нашых.*

*Забыцца на страх,*
*адчай і сумненні,*
*Адкінуўшы прэч нерашучасць*
*і млявасць...*
*Альбо назаўжды заблукаць*
*ў сутарэннях*
*Без голасу, зроку,*
*надзеі і права.*

*Нам лёгка з'яднацца*
*у нашае рознасці*
*З адзінаю мэтай*
*і шляхам адным —*
*Ачысціць НАШ край*
*ад трухлявае пошасці*
*І скотам не быць*
*у доме сваім.*

***

*Як жыць,*
*Калі цябе любяць адны звяры,*
*А пагарджаюць табой*
*ужо нават дзеці.*

***

*Нас гвалцілі, нас катавалі,*
*Нас білі і забівалі,*
*Нібы на звяроў палявалі*
*І як толькі не наракалі.*

*Хто нас навучыў калісьці*
*Трываць і баяцца моўчкі?*
*Нас прыніжаюць і нішчаць,*
*А мы заплюшчваем вочы.*

*Зрабілі чорнае белым,*
*Свабоду і сэнс пахавалі,*
*Нам не шкада памерлых,*
*Яшчэ крыху патрываем.*

*На вуліцы выйсці страшна,*
*Што заўтра? А заўтра не будзе.*
*Бо мы на зямлі нашай*
*Ужо залішнія людзі.*

*Нас цягне ў смяротную багну*
*Кадук, пасінелы й лісліва,*
*Калі не зважаць на праўду,*
*Можна быць цалкам шчаслівым.*

*Смуродлівы чорны дым*
*Схаваў небасхіл і сонца,*
*І хто гэта нас навучыў*
*Трываць і маўчаць бясконца?*

***

*І як бы ты не імкнуўся*
*Сэрца пазбавіць страхаў,*
*Пазбавіць яго сумненняў*
*На скрыжаваннях руху —*
*Ты будзеш збіваць калені,*
*Страчваць сябе між гмахаў,*
*Вагацца ды выбіраць,*
*І, зрэшты, нікога не слухаць.*

*Такая наша натура,*
*Такія мы людзі.*
*Можам насіць маскі,*
*Можам схавацца за словамі,*
*Але ў чарговы раз*
*Ніякіх сюрпрызаў не будзе,*
*І сцежка жыцця нароўная*
*Усіх прывядзе да адказу,*
*Пакінуўшы толькі імгненне*
*На твой асабісты выбар.*

*Галоўнае, не памыліцца...*

***

*Час прытупляе боль,*
*Зло становіцца нормай*
*Хочацца ўскочыць на столь,*
*Але страх прыціскае долу.*
*Уніз галаву ды гуськом*
*Цягнуць свае кайданы,*
*Твой самы жудасны сон*
*Набыў рэальны абрыс.*
*Пустэча ў вачах мінакоў*
*І бездань замест душы,*
*На небе бялюткім кроў*
*І слова адное — «бяжы».*
*Бяжы, калі страшна жыць,*
*Бяжы, калі лепей маўчаць,*
*Бяжы, калі зможаш забыць*
*Тых, хто не стаў трываць.*
*Бяжы ад самога сябе,*
*Пакуль не стаў шкадаваць,*
*І, можа, калісьці здолееш*
*Сябе аднойчы дагнаць.*

***

*У заасадзе я спытаўся ў зубра,*
*Хто з нас свабодны, ён ці я.*
*Крыху памаўчаўшы, асілак стары*
*Рыкам усмешлівым мне адказаў:*
*— Нібыта за кратамі бачыш мяне,*
*Але ж ці адрозны нечым ты сам?*
*Не варта болей падманваць сябе,*
*Свабоду сваю мы знутры нясем,*
*І я сваю жывым не аддам.*
*Але, калі краты ўнутры і звонку,*
*Ты лепей пытанне задай люстэрку.*



Фота pinterest.com



Фота dreamstime.com

***

*Часам мне здаецца, што ў гэтай краіне*
*Можна развучыцца здзіўляцца...*

*Пакіньце мне права здзіўляцца...*
*Пакіньце мне права верыць,*
*Што сёння я мушу змагацца,*
*Каб белае звалася белым.*

*Пакіньце мне права не бачыць*
*Сотні скалечаных лёсаў,*
*Нібы на вайне, не інакш...*
*І літасць пакіньце проста.*

*Пакіньце мне права не думаць,*
*Што жыць, як раней, магчыма,*
*Граць на парваных струнах*
*І не шукаць прычынаў.*

*Пакіньце мне права на злосць,*
*Што страх не дае ўсміхацца,*
*Пакіньце мне права на млосць...*
*Пакіньце мне права здзіўляцца.*

***

*Так мярзотна знутры і агідна,*
*Як жа мы да такога дайшлі,*
*Як такую пачварную гідру*
*Ўзгадавалі на роднай зямлі?*

*Ўласнаручна скрозь нашыя страхі,*
*Абыякавасць скрозь, немату,*
*Мы гадамі вучыліся "ахаць"*
*І бяконца трывалі хлусню.*

*І аднойчы крыві смак адчуўшы,*
*Гідра шляху свайго не міне.*
*Я прашу: "Заляпіце мне вушы*
*І заплюшчыце вочы мне".*

*Так мярзотна знутры і агідна,*
*Як жа мы да такога дайшлі,*
*Як такую пачварную гідру*
*Ўзгадавалі на роднай зямлі?*

**Бабулі**

*Ты так пра́гнула вярнуцца дадому,*
*Неспакойна было тут, наўтульна,*
*Ты жыла ўспамінамі светлымі,*
*Хоць і вельмі нялёгкім быў шлях.*

*Не забыць цеплыні тваіх рук,*
*Не забыць супакойвальных словаў,*
*Не забыць глыбіні вачэй*
*Ад маленства і да канца.*

*Не забыць пацалунак апошні*
*На тваіх сівых валасах...*

***

*Я б хацеў не прачнуцца ўчора,*
*Каб не верыць у тое, што бачу,*
*Каб на момант, прыціснуты горам,*
*Выплыць з мора адчаю і плачу.*
*Там, на тле зруйнаваных дамоў,*
*Сярод тысяч знявечаных душаў,*
*На калені прыпасці без слоў*
*Я хачу, я прагну і мушу.*
*І я веру, што згіне злое,*
*Атруціцца сваёю крывёй...*
*Ды дачка не забудзе ніколі*
*Гэта слова, што сее боль.*
*Я б хацеў не прачнуцца ўчора,*
*Бо ўчора забіла вайна.*

***

*Не дапісана, не завершана, не скончана,*
*Існаванне нашае неапраўдана,*
*Ні сэнсоўна, ні існасна не аплачана,*
*Не з'яўляецца ні плёткаю, ні праўдаю.*

*І не тымі бакамі, не тымі*
*напрамкамі,*
*Не з тымі чаканнямі і не з тым*
*настроем,*
*З пастаяннымі страхамі*
*выйсці за рамкі*
*І з бястактным сядзеннем*
*у вечным спакоі*

*Мы бадзяем-блукаем бясконцымі*
*лабірынтамі*
*Безнадзейна ў надзеі знайсці патрэбнае,*
*І пры гэтым патрэбы робячы міфамі,*
*У памылках сваіх звінавацііўшы*
*неба ганебнае.*

*Са здзіўленнем ў вачах,*
*не паверыўшы існасці,*
*Выпадкова змешваем усмешку*
*з плачамі,*
*Ды жыццё нашае, пэўна,*
*такое сціслае,*
*З-за таго, што яшчэ незавершана*
*і пакуль неаплачана.*

***

*Паэзія... каб застацца*
*Успамінам на сценах жыццёвых,*
*Раздаць па кавалачках сэрца*
*І адрадзіцца новым...*
*Паэзія... каб здолець*
*Сябе адшукаць і страціць*
*У змаганні за месца і долю,*
*У спробах у плынь патрапіць...*
*Паэзія... каб зведаць*
*Суплёт невядомасці свету,*
*Глядзець вачыма іншымі*
*На сонца, неба і вецер...*
*Паэзія... каб адчуць*
*За плячыма сваімі крылы,*
*Ляцець над прасторай гукам*
*І напаўняцца сілай...*
*Паэзія... каб мроіць*
*І паэзія...каб любіць.*
*Мы, пэўна, усе паэты,*
*Паэзія... каб жыць...*

***

*Непахісныя... сцены і вокны,*
*Падаецца, не з гэтага свету,*
*Я — часткова гукі і водар,*
*Я — часткова сонца і вецер.*
*Дастаткова ўсё зразумела,*
*Што пасуе і што да твару,*
*І хоць часам права як лева,*
*Ўсё астатняе будзе ма́рамі.*
*Даспадобы знаходзіць адрозненні*
*У аднолькавых з'явах існасці,*
*Як жа хочацца ўсім быць рознымі,*
*Беззаганнымі, белымі, чыстымі.*
*Як усмешка ў адказ нябёсаў,*
*Нібы цукар на вечныя раны,*
*Бо надзеі на зволістасць лёсу*
*Пахаваны недзе старанна.*
*Бы залішнія фікцыі часу,*
*Мы зарана, напэўна, сціхлі,*
*Засталася адна толькі фаза —*
*Жыць, пакуль дазваляюць дыхаць...*

# Мая сястра Альжбэта



Павел ЛЯХНОВІЧ

Паводле нашай «сямейнай легенды», якую тата і мама ўжо сто разоў распавядалі, калі мяне яшчэ не было на свеце, Альжбэта прасіла іх: «…нарадзіце мне брацiка або сястрычку… Ці хоць сабачку!». Тата і мама, распавядаючы гэта, заўсёды смяюцца, ажно заходзяцца. А мне зусім не смешна. Альжбэта, маркуючы па ўсім, выпрасіла мяне ў таты з мамай дзеля таго, каб было з каго здзекавацца, каго выкарыстоўваць у якасці прыслугі або баксёрскага мяшка ці аб'екта для выхавання.

Я спрабую не паддавацца, я ж як-ніяк мужчына, і ростам мы амаль аднолькавыя, але ж яна на чатыры гады старэйшая і дужая, як конь. Дзіва што, два гады на бокс ходзіць. Мама з татам былі супраць яе заняткаў боксам, думалі, што ён зробіць яе «мужыкаватай», а яна аж вішчэла і ўрэшце свайго дабілася. І, калі шчыра, нічога мужчынскага ў яе вобліку я не бачу. Тонкая, гнуткая, спрытная… Толькі страшэнна ўпартая. Калі захоча мяне ад кампутара адагнаць, на якім я гуляю — ёй, разумееце, трэба тэрмінова пошту праглядзець ці мэйл камусьці паслаць, — то як бы я ні супраціўляўся, выцісне. А яшчэ хітрая… Як што, дык такая ліслівіца становіцца… «Брацік, прынясі тое, аднясі гэта…», або «Тадзік (мяне Тадзікам клічуць), ну будзь сябрам…», і па галаве гладзіць. А я, калі мяне па галаве пагладзіць, такі падатлівы станаўлюся! Потым ажно сорамна.

Я, калі на Альжбэту злуюся, называю яе «кабыла». Мама з татам адразу на яе абарону становяцца: «Ну як табе не сорамна гэтак сястру абзываць! Якая ж яна кабыла — глянь, якая прыгожая!». А тата яшчэ можа пры гэтым і па карку пляснуць. Не балюча, а так, дзеля абазначэння незадаволенасці. А я тады кажу, што «кабыла» — гэта не абраза. Бо коні вельмі прыгожыя, вытанчаныя і грацыёзныя… Якая ж гэта абраза? Вось калі б я яе сарнай назваў або газэллю, ці палічылі б яны гэта за абразу? Не? А між іншым, сарна — горная каза. І нічога там асабліва прыгожага няма. Толькі што спрытна па скалах скача… А газэль — рагата-парнакапытнае стварэнне. І карова — рагатая і парнакапытная… Магу яе «каровай» называць… Або «казой». Тут мама пачынае злавацца і называе мяне «дэмагогам», а тата рагоча.

Я злазіў у пашукавік на «Гугле» і знайшоў там, што «дэмагог» — гэта «той, хто ў развагах, спрэчках, выказваннях выкарыстоўвае пустыя, не заснаваныя на фактах фразы». Глупства, ніякі я не дэмагог! Кабыла — гэта конь? Конь! Прыгожы і дужы? Так! Грацыёзны? Таксама так! А сарна — каза! Так кожны скажа, хто яе ўбачыць. І газэль — з «сямейства паларогіх», парнакапытная жывёліна! Што тут не заснавана на фактах?

Часам Альжбэта просіць мяне пабыць у яе «спарынг-партнёрам». Гэта значыць, я павінен надзець баксёрскія пальчаткі і яе пабіць. Мяне яна абяцае не чапаць. Я не вельмі люблю гэты занятак з ёю, бо гэта так толькі гаворыцца: «пабіць». Насамрэч трапіць у яе амаль што немагчыма. Скача па пакоі, як звар'яцелы матыль, і ўсе мае спробы дзеўбануць яе павісаюць у паветры або трапляюць на падстаўленых руках. Я пачынаю злавацца і спрабую загнаць яе ў цеснае месца, каб не магла ўхіліцца, і тады, нягледзячы на абяцанне Альжбэты толькі абараняцца, атрымоўваю па носе. Баксёрскай пальчаткай гэта не вельмі балюча, але вельмі крыўдна! І ўрэшце «спарынг» ператвараецца ў сапраўдную бойку. Як «эмэмэй». Мы валяемся па падлозе, але ўрэшце Альжбэта заўсёды апынаецца зверху і ўтрымлівае мяне так, што я не магу паварушыцца. Я ж кажу — кабыла!

Часам я на яе так злуюся, што ажно ўвушшу шуміць. А летась улетку яе на тры тыдні ў летнік спартовы (гм… «летась», «улетку», «у летнік»… прыкольна атрымалася!) «сплавілі», як тата казаў. Я дні два быў вельмі задаволены, што ніхто мяне ад кампа не адганяе, што ніхто кепікамі не дастае, не выхоўвае рознымі заўвагамі… А на трэці нешта здарылася ўва мне, і я пачаў сумаваць. А калі Альжбэта ўрэшце вярнулася, дык я ажно з абдымкамі на яе накінуўся. Хоць і засаромеўся потым. А праз гадзіну мы ўжо сварыліся.

У наш клас — я ў другім класе вучуся — з месяц таму навічка прывялі. Выглядае не па-нашаму, чарнявы, кучаравы, з гарбатым носам. І размаўляе так, што адразу і не зразумееш. Нешта гер-гер-гер. Але калі прыслухацца, то зразумела. Тата сказаў, што гэта «акцэнт». «Гугл» на мой запыт адказаў, што «акцэнт» — гэта «своеасаблівае вымаўленне, уласцівае чалавеку, які размаўляе на чужой мове». Клічуць таго хлопчыка Акоп. Для нашых дасціпнікаў нічога лепей нельга было прыдумаць, чым гэтае імя. Як толькі яго не дражнілі — і «ДОТ», і «ДЗОТ», і «Бліндаж»… Акоп на гэтыя мянушкі рэагаваў спакойна — «я нэ ДОТ, я Акоп», — і праз якіх пару дзён гэтыя дасціпы прыеліся, зніклі.

На пытанне «Ты хто?» Акоп адказвае: «Армянін». Ёсць у нас кампанія, іх трое, якія амаль кожны перапынак пытаюць Акопа, і ён кажа «армянін», і з яго пачынаюць здзекавацца. Часам даходзіць да штурханіны. Потым, на наступным перапынку, усё паўтараецца. Я ўжо думаў параіць яму адказваць нешта іншае, калі ўжо нашым хуліганам так недаспадобы гэтае слова. Напрыклад, «я — беларус», або проста «чалавек». Падзяліўся гэтым з Альжбэтай, а яна сказала, што адракацца ад сваёй нацыянальнасці — гэта як адракацца ад сваякоў, нават яшчэ больш ганебна.

Альжбэта плавае як рыба. Сорамна прызнацца, я плаваць навучыўся зусім нядаўна, у час мінулых летніх канікул. Якраз, калі яна з летніка вярнулася. Тата з мамай мяне на раку пускаюць толькі разам з сабою або з Альжбэтай. І пасля яе вяртання мы пайшлі на канал. Туды крыху бліжэй, чым да пляжа, і частка людзей там купаецца. Часам рыбу вудзяць. Альжбэта ўзяла вуду, мы размясціліся на беразе ўбаку ад купальшчыкаў, з невысокім, але даволі стромым схілам, парослым травою. Альжбэта ўтаропілася ў патанак, а я сядзеў побач і разглядаў рознакаляровых матылёў і стракоз. Не ведаю, як гэта атрымалася, але раптам я ўбачыў над сабою бурбалкі. Я павольна пагружаўся і глядзеў, як ад мяне ўверх падымаліся бурбалкі, як варушылася паверхня вады, знізу яна была серабрыстай. Потым — плюх! — і мая галава ўжо над вадою, я ўвесь мокры і мяне за каўнер трымае Альжбэта. Стаіць ля самага берага на дне, вада даходзіць ёй да грудзей, адной рукой учапілася за лазіну, другой — за мой каўнер. А вочы ў яе… Я нават не знаходжу слоў, каб растлумачыць, якія ў яе былі вочы. «Як ты ў ваду споўз — я не заўважыла… — распавядала потым Альжбэта. — Толькі чую побач ціхі такі гук — «Блюммм», і бачу пад паверхняй твой твар. Саскочыла, працягнула руку і паспела… Тадзік, вельмі цябе прашу, пра гэта нікому не кажы. Асабліва маме і тату. Ну, ты ж сам не дурань, павінен разумець — калі раскажаш, то ніколі болей са мной цябе на раку не адпусцяць. А я з сённяшняга дня табою займуся. Такі ўжо амаль дарослы, а плаваць не ўмееш… Ведаеш, што казаў Архімед пра чалавека, на яго погляд, зусім нявартага? «Ён не ўмее ні плаваць, ні чытаць…».



Фота ura.news

(Потым дома я «нагугліў» пра Архімеда. Нешта малазразумелае. «Навуковец і інжынер. Зрабіў шмат адкрыццяў у геаметрыі і матаналізе…». Не ведаю, што за «геаметрыя», што за «матаналіз»? Мабыць, нешта пра кепскія словы, якія мама з татам мне забараняюць вымаўляць…)

А тады мы перайшлі да купальні, распрануліся, развесілі на прыбярэжных хмызах вопратку, і Альжбэта пачала вучыць мяне плаваць. Потым такія заняткі былі яшчэ, а тым разам я зразумеў — вада можа трымаць! Калі зрабіць поўны ўздых, затрымаць дыханне ды скруціцца ў вадзе, абняўшы рукамі падцiснутыя калені — вада трымае! І ты вісіш ля яе паверхні, як патанак, спіною ўверх.

Калі вопратка высахла, мы пачалі збірацца дадому, я заблытаўся нагамі ў вудачцы і зламаў вяршынку вудзільна. Гэта была ўлюбёная татава вуда — я сам чуў, як тата двойчы паўтарыў, каб Альжбэта яе не пашкодзіла. Натуральна, яна разлютавалася, балюча ўрэзала мне па карку і назвала «дурным слонапатамам». Я адказаў ёй «кабылай».

Мы пасварыліся і ўжо два дні не размаўляем. Дакладней, не размаўляе яна. Робіць выгляд, што мяне не чуе і не бачыць. А віну за паламаную вуду ўзяла на сябе — я прыгразіў, што распавяду пра «выратавальную аперацыю». Натуральна, я ні пры якіх варунках гэтага б не зрабіў, але пагроза падзейнічала.

Нічога, заўтра мы разам едзем у сталіцу, гэта недалёка ад нашага горада, але мяне аднаго яшчэ не пускаюць, толькі з Альжбэтай. Вось заўтра і паглядзім — як яна будзе прытрымлівацца свайго «байкоту»? Мы едзем у лялечны тэатр. У нашым горадзе ёсць кінатэатры, ёсць «дарослы» драматычны тэатр, а лялечнага няма. Квіткі на спектакль «Цудоўная Галатэя» нам прывезла цётка Гэля, мамiна сястра. Я ў нецярпенні, хоць не вельмі ўяўляю, што там будзе за гледзішча…

…Гэта было грандыёзна! Мы з Альжбэтай ішлі з тэатра лялек, спяшаліся на чыгуначны вакзал, і я ўжо не памятаў змест спектакля. Я памятаў толькі, што гэта грандыёзна, што тыя вялізныя лялькі, тыя колеры, уборы, дэкарацыі — я ж разумеў, што гэта ўсё такая гульня, але быў упэўнены, што гэта якраз і ёсць гульня, у якую толькі і варта гуляць. Я быў агаломшаны! І не разумею — чаму. Альжбэта даўно забылася, што яна мяне «байкатуе», і пару разоў здзіўлена пыталася, што са мной. Нешта, відаць, ува мне яна ўбачыла незвычайнае…

Мы наўкос пераходзілі сквер, уперадзе ўжо былі відаць прывакзальныя вежы і сам вакзал. Злева стаяла бронзавая дзяўчынка пад дзіравым парасонам. «Глянь…» — сказаў я. Хацеў дадаць: «…вось яшчэ адна кабыла…», бо тая, металічная, была страшэнна падобная да Альжбэты. Але нешта мне не дало вымавіць гэтыя словы. Скульптура здалася мне такой пяшчотнай, такой лёгкай, што даткнуцца да яе грубым словам (а я ж разумею розніцу паміж «кабылай» і «газэллю») нешта мне не дазволіла. Я ўсё яшчэ быў пад уплывам уражання ад спектакля, і нейкі… мяккі. «Гля… — рыхтык ты…»

Альжбэта недаверліва глянула на мяне, прыцішыла хаду, павольна падышла да дзяўчыны і пачала яе ўважліва разглядаць. Я пастаяў крыху і вярнуўся назад, у цэнтр сквера, дзе хвілінай таму заўважыў іншую скульптуру — кабету ў капелюшы. Яна сядзела на лаве, нібыта адпачывала пасля спектакля, дзе была акторкай, і ад яе веяла такой годнасцю, што мне стала няёмка вось так, нахабна, на яе вылупляцца. Мне хацелася апусціць вочы. Нібыта я баяўся абразіць позіркам.

І ў гэты момант з мяне нехта сарваў бейсболку. Новенькую бейсболку з эмблемай «Мазды», якую разам з квіткамі на спектакль падарыла цётка Гэля. Я павярнуўся і ўбачыў падлетка. На паўгалавы вышэйшага за мяне, на паўтулава шырэйшага. Бейсболку ён схаваў за спіну і, нахабна ўсміхаючыся, мяне разглядаў.

«Аддай, — жаласна папрасіў я. Імгненнае «падзенне» з вышынь узнёслых пачуццяў у нечаканыя абставіны сярод дрэў і хмызоў сквера, дзе на вачах бронзавай кабеты, да якой у маім сэрцы расплывалася пяшчота, мяне рабуе нейкі пыхлівы хлопец… я адчуў страшэннае прыніжэнне, ніжэй якога ўжо быць не можа. — Аддай. Гэта падарунак. Цёці Гэлі».

Нічога больш узмацняючага маё прыніжэнне, як гэтая спасылка на «цёцю Гэлю», прыдумаць было нельга. Хлопец зарагатаў і надзеў маю бейсболку сабе на галаву. Як я там сказаў — «…быць не можа»? Можа.

Хлопец павярнуўся, каб ісці, і за яго шырокай постаццю нечакана аказалася Альжбэта. У параўнанні з ім яна выглядала як вадзяная калонка насупраць водапорнай вежы. «Цябе аб чым просяць? Аддай! Не тваё — не чапай!» — голас Альжбэты быў нацягнуты і звінеў.

«Гэта яшчэ што за каза? — вымавіў хлопец у прастору, быццам размаўляў сам з сабою. — Згінь!» І працягнуў руку, каб адсунуць Альжбэту з дарогі. Рука яго працяла паветра, бо Альжбеты ўжо там не было. «Лясь!» — хвастануў па вушах гук. Хлопец схапіўся за твар, зламаўся ў паясніцы і заенчыў.

…Мы ехалі вячэрняй электрычкай. Сядзелі на мулкіх лавах, і я ўзгадваў сённяшні дзень. «Адракацца ад сваякоў… ганебна…» — прыйшлі мне на памяць словы. Ды я ніколі і не адракаўся…

# Украінская падборка



Назар ГАНЧАР

## Ода да ложка, альбо калыханка для сябе

*Ложак мой —*
*мая паэтычная майстэрня.*
*Ложак мой —*
*мой найшчырэйшы сябар.*

*Ложак мой —*
*do you sleep English?*
*Ложак мой —*
*schlafen Sie Deutsch?*

*Ложак мой —*
*ложак мой украінскі.*
*Ложак мой —*
*гэта мой усечалавечы доўг.*

## Выпадак

*Лугасад* заўважыў Драка здалёка*
*і за слуп схаваўся*
*і выскачыў знянацку —*
*і Драк аслупянеў*
*аж выпала з вуснаў цыгарка*
*ці ўсамрэч недапалак*
*то-бок выпадак*



Іван ЛУЧУК

***

*Здарылася незвычайнае —*
*сышліся Каменная душа,*
*Каменны госць,*
*Каменны гаспадар і*
*Каменная кветка.*

*(Матросы па сушы затужылі —*
*хоць бы лапік яе пабачыць.*
*Але ж там віднеецца атол,*
*толькі атол.)*
*Чортавы камяні спаміж зелені,*
*абгрызеныя ветрам,*
*пасечаныя датамі ды імёнамі.*

*Тыя чатыры камяні*
*ачышчаюць больш паветра,*
*чым навакольны лес.*



Віктар НЕБАРАК

## Знаёмства

*што там схавана ў тваёй галаве?*
*— маё адлюстраванне —*
*якім ты бачыш мяне?*

*ты бачыш маё адзенне*
*альбо угадваеш мой настрой*
*заўважаеш якія ў мяне чаравікі*
*а мажліва ты тэлепат*
*і разглядаеш маю думку*
*як каменьчык у калейдаскопе*
*а мажліва і звар'яцелы*
*бачыш мяне з рагамі і хвастом*

*табе падабаецца рок?*
*ты чытаеш Антоныча?*
*любіш вясёлыя кампаніі?*
*кінуў паліць? цікавішся жывапісам?*

*што можа нас аб'яднаць?*

*праца? кавярня? дэманстрацыя?*
*стадыён? агульныя знаёмыя?*
*агульныя захапленні?*

*гэты стары ў тралейбусе*
*заўважае толькі месца*
*якое я вызваляю*
*гэта дзяўчына глядзіць у пустэчу*

*на вуліцы я адзін з многіх*
*на працы выкладчык*
*украінскай літаратуры*
*у дыска-клубе, пры знаёмстве,*
*імкнуся быць дасціпным*

*тысячы людзей носяць*
*маё нябачнае адлюстраванне*
*тысячы адлюстраванняў*
*блукаюць у маёй галаве*

*мілы нудотнік пошлы дасціпнік*
*прафан балбатун занадта сур'ёзны*
*славалюбны маньяк беларучка*
*філосаф дурында хлапчына сябрук*

*што мы рабілі б, каб пасябравалі*
*казалі б пра палітыку ці пра жанчын*
*пілі б віно ездзілі б у падарожжы*
*чыталі б вершы хадзілі б на каву*

*заступаліся б адзін за аднаго*
*выцягвалі б адзін аднаго з калатнечы.*

*а можа ты шчаслівец*
*і напляваць табе на мяне*

*а можа ты самотнік*
*і не трэба табе знаёмстваў*

*можа свет вакол цябе*
*цёмная пустка*

*можа усіх дарагіх*
*ты ўжо навекі страціў*

*што мне вядома пра іншага чалавека*
*што іншаму чалавеку вядома пра мяне*

*ён пáдае пасярод вуліцы*
*кола разявак задае пытанне*



Раман САДЛОЎСКІ

## Свету

*Лес дарогу паглынаў*
*і з пагардаю трос*
*нас у сабе... Нарэшце —*
*хата мая*
*каля мажлівых дрэваў і людзей,*
*вокнамі на іх,*
*дзвярыма на Птушыны шлях.*

*Прыцемкам робіцца цесна ў пакоі —*
*яны выпаўзаюць на двор.*
*А вунь свет такі вялікі,*
*што я не разумею,*
*як ён час ад часу каўтае сябе.*

*Тады дрэвы грукаюць у вакно*
*І кудысьці сыходзяць.*

*Яшчэ былі тыя, якія тут гандлявалі*
*і непрыкметна дні свае страцілі*
*— адышлі, а апошні*
*хацеў прывязаць сябе да дня,*
*які адштурхоўваў яго.*
*Потым запытаў нешта і сышоў,*
*не чакаючы адказу.*

*...узлятаю*
*не так — у вышыню,*
*каб, пралятаючы, абавязкова*
*памахаць рукою,*
*а — проста ў зямлю шукаць,*
*бо ў ёй сябе разгубіў.*

*...насланне*
*і надпіс —*
*ён прымушаў сябе ўзлятаць.*



Мар'яна САЎКА

***

*Гарады забываеш.*
*Не помніш аблічч і гукі.*
*Пераходам падземным*
*асеннюю дорыш хандру,*
*Покуль слова зачнеш,*
*зачынаеш мелодыю мукі.*
*А старое прабач,*
*прабачаючы гэту пару.*

*Штосьць асеннім гучаннем*
*нагадвае вецер у арцы,*
*Ён шторанак з душы*
*вымятае ілюзій шмаццё.*
*І на слізкім узбоччы*
*ў лахмоцці пахілыя старцы,*
*Што на шчасце пакутуюць*
*і шчэ на сэрцабіццё.*

*Паміж рэек трамвайных —*
*дыханне прамоклага лісця.*
*Тады ў кожнае верш прышэсце*
*халодных дажджоў.*
*Развітаешся з местам, і разам —*
*з мелодыяй чыстай,*
*Што сачыцца на брук*
*па званах цыратовых плашчоў.*

***Пераклаў з украінскай***
***Серж МІНСКЕВІЧ.***

* *Лугасад (Лугосад)* з тэкста — гэта персаніфікацыя вядомага паэтычнага згуртавання, у назве якога ёсць і Назар Ганчар (Гончар) Га (Го). Хто такі *Драк*, невядома. Ёсць версія, што гэта драконаўская іпастась знанага паэта-шасцідзясятніка Івана Драча.



Фота vokrugsveta.ua

# Боль і радасць паэта

## Да 10-й гадавіны з дня смерці Міколы МІШЧАНЧУКА

Мікола СЯНКЕВІЧ

Мікалай Іванавіч МІШЧАНЧУК нарадзіўся 26 кастрычніка 1939 года на прыіску Майскі ў Амурскай вобласці, хоць радзіма бацькоў — Міншчына. Дзіцячыя гады прайшлі на станцыі Юхта Свабодненскага раёна, дзе Мікола скончыў сем класаў. У 1954 годзе Мішчанчукі вярнуліся ў Беларусь, пасяліліся ў пасёлку Чырвоны Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Навокал была пасляваенная галеча. Маці працавала даяркай у калгасе, па гаспадарцы. Ёй, як мог, дапамагаў Мікола. У 1957-м скончыў Суцінскую сярэднюю школу з залатым медалём. А затым — Мінскі педінстытут, там жа і аспірантуру. З 1996 года працаваў у Брэсцкім дзяржуніверсітэце імя А. С. Пушкіна. Жыў у Брэсце. Памёр 5 кастрычніка 2012 года…


Фота nlb.by

У далёкім цяпер ужо 1988 годзе ў «Настаўніцкай газеце» мяне зацікавіў, узрушыў урывак з кнігі «Настаўніку пра настаўнікаў». «Пытанні сабе і іншым. Чаго б гэта ні каштавала. Не спісванне, не перапісванне, не на пяцьдзясят старонак, чужы, у спасылках і двукоссях тэкст, а на пяць, на тры — ды свой», — пачуццёва пісаў невядомы мне на той час Мікола Мішчанчук.

Падкупляла цеплыня, захопленасць, з якой аўтар гаварыў пра педагогаў-наватараў, паэтызуючы іх духоўны свет, ахвярнасць, любоў да дзяцей і прафесіі. Асабліва ўразілі ўспаміны пра першага настаўніка — франтавіка Аляксандра Аляксандравіча Севасцьянава. Гэта ён мог запрасіць першакласніка «на кансультацыю» ў невялікі халодны пакойчык у барачным будынку, чырванеў, нібы саромеючыся за вучняў, пасля чарговай іх вольнасці, ніколі не павышаў голасу, быў самым прыгожым, смелым і дужым. Настаўнік сам насіў дровы, паліў у печы, гатаваў абед. А сяміградовы госць ніяк не мог даўмецць: як такое можа быць, ён жа *настаўнік*!

Вельмі хацелася быць падобным на таго пасляваеннага педагога-мужчыну, і яшчэ падумалася тады, што так захапляльна, з такою непадробнаю шчырасцю можа расказаць пра педагагічную прафесію толькі настаўнік-творца, магчыма нават, паэт. Прадчуванне не падманула: праз нейкі час у мяне была магчымасць пазнаёміцца з вершамі Міколы Мішчанчука, а значна пазней, калі Мікалай Іванавіч быў запрошаны падымаць узровень філалагічнай адукацыі ў тых, што перакваліфікаваны з педагагічнага інстытута Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт, — і з самім аўтарам. Сталічны прафесар адразу зрабіў уражанне чалавека самастойнага ў думках, неспакойнага ў творчым пошуку, а яшчэ адкрытага, добразычлівага, бескарыслівага ў высокім значэнні гэтага слова інтэлігента. Менавіта такім уяўляўся мне аўтар кнігі «Настаўніку пра настаўнікаў» і вершаваных зборнікаў «Вернасць» і «Трывожуся за белы свет».

Пазней (2009 год) выйшла з друку новая кніга паэзіі «Струна надзеі» цяпер ужо і майго, так шчасліва склалася, настаўніка, навуковага дарадцы. Ад часу выхаду апошняй прайшло амаль чвэрць стагоддзя. Мікалай Іванавіч за гэтыя гады абараніў доктарскую дысертацыю, атрымаў вучоную ступень прафесара, дапамог стаць на крыло двум дзясяткам маладых філолагаў, напісаў шмат кніжак для студэнтаў і настаўнікаў. Але ў душы яго заўсёды жыла высокая паэзія. Яе дыханне нельга не адчуць і ў акадэмічнай манаграфіі ў некалькі соцень старонак, і ў чытанцы для пачатковай школы, дзе аўтар, захоплены мілагучнасцю роднай мовы, прапануе вучням проста — без усялякіх дадатковых заданняў — адчуць задавальненне ад гучання спрадвечнабеларускіх слоў *знічка, верасы, Мілавіца*…

Галоўная якасць Міколы Мішчанчука, паэта і чалавека, — эмацыянальная і душэўная шчырасць. Найперш гэта адчуваецца ў вершах, прысвечаных маці — самаахвярнай беларускай жанчыне, якая захінула дзяцей ад бяды ў ваеннае і пасляваеннае (бацька загінуў на фронце) ліхалецце.

Вядомы паэт, — шкада, забылася імя — каб не схлусіць словам і пачуццём, перш чым напісаць першы вершаваны радок, каліграфічным почыркам выводзіў зверху: «Мілая мамачка!». Пад такім дэвізам, думаецца, пісаліся старонкі згаданага зборніка. Паказальна, што «Струна надзеі» адкрываецца пранікліым, шчымлівым вершам «Пад маміным дрэвам прысяду». Свет без маці — «бераг, ад ракі адарваны». Сынава ці доччына здрада роднаму чалавеку, душэўная глухата дзяцей пераўтварае іх у жывых мерцвякоў:

*Калі ж здрадзіў ласкавай матулі сваёй <…>*
*Згаснуць зоры твае і заплача твой ранак.*

Узяты ў пачатку зборніка матыў гучыць і далей, пра што б ні гаварыў паэт. Нават нечаканая вершаваная рыфма спыніць «як пагляд мальвы з-за паркана, пасаджанай рукою *мамы*».

Боль страты самага дарагога на свеце чалавека запамінальна перададзены ў скупых радках верша-развітання:

*Мама пайшла ад нас —*
*Сцішылася ўраз*
*Трава ля пакінутай вёскі <…>*
*У кропцы змясціўся час.*

У беларусаў, сведчаць мовазнаўцы, каля пяцідзесяці зваротаў да маці. У Міколы Мішчанчука, дарэчы, як і ў рэдактара ягонай першай кнігі народнага паэта Рыгора Барадуліна — на першым месцы *мама*. Так выгукнулася амаль што семдзесят гадоў таму ў далёкім Амурскім краі, так было заўсёды і так ёсць. Паэт шукае блізкія яму пачуцці ў рускай класіцы дзевятнаццатага і пачатку дваццатага стагоддзя. Як мала ў іх, геніяў, вершаў, прысвечаных маці! Выхаваныя, у большасці сваёй, слугамі, хай і высокага рангу, — яны не адчулі па-сапраўднаму мацярынскага цяпла, а значыць, не змаглі перанесці яго на паперу. Таму гэткае блізкае аўтару Хадасевічава: «Мама! Малітва, каханне, годнасць і смерць — гэта ты!».

А памяць зноў і зноў вяртае паэта да вытокаў. Дзяцінства (паводле Валянціна Берастава) нікуды не знікла, а зрабілася духоўным стрыжнем дрэва жыцця, яго першым запаветным колцам, сэрцавінай. У Міколы Мішчанчука яна мацавалася бабулінай калыханкай на роднай мове ля далёкага Японскага мора, гартавалася цяжкімі ўрокамі, якія давала жыццё пасляваеннаму бязбацькавічу. Сарцавіна аказалася моцнай, надзейнай, трывалай… і ў той жа час ранімай, адкрытай, бо наступныя кругі гадавых кольцаў не прыглушылі яе дзіцячую чысціню, не пакрылі замшэлым лубам абыякавасці. І таму ёй, душы, трывожна, калі белыя чародкі хмарак над засмяглаю зямлёю Палесся разганяе «лязганне стальных драконаў», чуллівая, яна радуецца ад сузірання таго, як «алілуецца прырода» за вокнамі цеснага вагона, як «світання светлая палоска ўплятаецца ў верхавіны дрэў» і «выбягае маліцца да ракі явар». Ёй дадзена бачыць, як «песня жаўрука, што нітка серабра, кладзецца на даланю зямлі», чуць «прарастанне зерняў гукаў з нябачных сховаў».

А карані дрэва жыцця надзейна заглыбіліся ў родную зямлю. У «Струну надзеі» ўвайшлі вершы, якімі мае поўнае права спавядацца роздумная сталасць. Трэба сказаць, што пераэжыта, асэнсавана, «пазнана лёсам» было нямала. Пайшлі з жыцця родныя людзі. Нават усемагутная любоў паэта — сына і бацькі — не змагла ўратаваць іх:

*Сядзім, прыціхлыя,*
*Як птушкі*
*Пасля навальніцы.*
*Цяжка, напружана*
*Дыхаецца.*

Гэта пасля развітання *з Будучыняй*… Але трэба жыць, трэба «плакаць па-даросламу», хоць так хочацца расплакацца, як у дзяцінстве, каб супакоілі і пашкадавалі. Суцяшае, што пачатковы дзеяслоў у гэтых перапоўненых жальбаю радках ужыты ў множным ліку. Разам і маўчаць лягчэй, дзялячы невыносны для кожнага паасобку душэўны цяжар. «На беразе дабра, святла, пакут» спакойна з надзейнай спадарожніцай жыцця, «святою і сонечнаю Ладушкай» — Соф'яй Аляксандраўнай. Каханне дае сілы і з «перабітым вяслом весці лодку да берага надзеі і веры». А шлях гэты не заўсёды спакойны. Бывае, што крумкачы-пярэваратні ў салаўіных абліччы раняць сэрца руладамі, падобнымі да выбухаў шрапнелі. І трэба вытрымаць іх ядавітае цёхканне, гэтую вартую жалю радасць нямоглых і кволых душою, бо аднойчы выбраная жыццёвая пазіцыя абавязвае.

Радасць і боль… Гэтыя два словы прафесар Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, чалавек, якога Мікалай Іванавіч лічыць адным са сваіх настаўнікаў у мастацкай творчасці (у адным шэрагу з Рыгорам Барадуліным, Міколам Аўрамчыкам, Уладзімірам Паўлавым і Ягорам Яўсеевым), нездарма паставіў побач. Любіць усіх, хто пакутуе ад душэўных ран, — гэтая спаконвечная наканаванасць сапраўднага паэта — выразна гучыць у «Струне надзеі» Міколы Мішчанчука.

У сваёй творчасці Мікола Мішчанчук быў далёкім ад таго, каб паказваць жыццё ў ідэале: гэта было і аказалася нікому не патрэбным. Не віна аўтара, што ў ягоным зборніку боль стаў на першае месца. Пякучы, ён напятай струной гучыць найперш у паэме «Сачыненне пра дабро». У пару «дэфіцыту» дзяўчаткі-школьніцы, тыя, «каго, можа, і каханымі назавуць», збіваюць аднакласніцу за тое, што пабэцала і «не дастала» модныя красоўкі. Б'юць зацята, без літасці, па-мужчынску. «Што такое жорсткасць? — задае пытанне паэт у адным з лірыка-публіцыстычных маналогаў, з якіх складаецца твор, і дае адказ: — Гэта зара пачарнелая». Усё, і злое таксама, пачынаецца з дзяцінства — школы, сям'і, дарослых, якія марнуюць час у пошуку прывідных даброт жыцця. Як вынік з'яўляюцца яны, малядзя, з абмежаванымі духоўнымі запатрабаваннямі людзі, якім вядома адно толькі слова — «дай!».

Філасофія жыцця лірычнага героя Міколы Мішчанчука заключаецца ў тым, каб ісці да людзей «вучыцца, а не вучыць», каб «на апошнім міліметры» дапамагчы ўсім, хто варты радасці. Запаў у памяць алегарычны радок аднаго з танка: «Спяць крылы душы яго [бору, сасонніку]». Адразу падумалася пра аўтара. Не, крылы душы яго не спалі. Яны ўзняты, шырока распраўлены, яны напружана вяслуюць, і пад іх засцярогай было ўтульна маладым вучоным, якія толькі рыхтавалі сілы для самастойнага палёту і, што й казаць, нярэдка забывалі пасля ў мітуслівай плыні жыцця таго, хто дапамог (крэсліў, правіў і перапісваў) сцвердзіцца ў жыцці. Мудрыя Настаўнікі даруюць маладосці і не такое, не выносяць (паводле Фёдара Янкоўскага) «вечны прысуд на ганьбаванне таго, хто здрадзіў», і ўсё ж… Напэўна, нездарма прыйшла Міколу Іванавічу думка перакласці «На пасеў лесу» блізкага яму па духу Яўгенія Баратынскага:

*Ляцеў душой да новых, маладых,*
*Любіў і песціў іх няважкі колас,*
*Я дні згубіў шуканнем сэрцаў іх,*
*Пачуццяў светлых падаваў ім голас.*
*Няма адказу!..*

Спадзяюся, што пра пераклады Міколы Мішчанчука не адзін раз выкажуцца прафесійныя літаратурныя крытыкі і вучоныя-філолагі, бо ў такім аб'ёме вядомыя рускія паэты Яўгеній Баратынскі, Іван Бунін і Уладзіслаў Хадасевіч пададзены ці не ўпершыню. Боязь перастварэння на родную мову рускай паэтычнай спадчыны выразна адчуваецца ў асяродку айчынных перакладчыкаў, і многія выдатныя паэты, якім не пашчасціла трывала замацавацца ў школьных хрэстаматыях, губляюцца, застаюцца ў сваім часе і не могуць праз тоўшчу гадоў данесці голас да нашчадкаў. Між тым чытачу цікава ведаць, чым жылі, што не прымалі, якія духоўныя ідэалы адстойвалі гэтыя людзі, як цікава таксама разважаць-здагадвацца і пра тое, чаму перакладчык спыніўся на канкрэтным творы: ці то натрапіў на «свой», напісаны паўтара стагоддзя назад верш, ці то знайшоў адказ на пакутлівае пытанне, якое не давала спакою не адзін дзень і год, ці проста здзівіўся глыбіні аўтарскага вобраза… Хочацца спадзявацца, што зробленыя на высокім мастацкім узроўні пераклады Міколы Мішчанчука дапамогуць маладому чытачу адкрыць невядомыя яму імёны рускіх аўтараў і прыахвоцяць да чытання паэтычнай класікі.

Верылася, што гэты выпакутаваны ў нялёгкі, драматычны час зборнік акрыліць аўтара на новыя творчыя пошукі, а струна надзеі і, найперш, радасці будзе выразна і мажорна гучаць у яго наступных кнігах паэзіі і прозы, у падручніках і метадычных дапаможніках. Вельмі шкада, што так не атрымалася. Але ўсё тое, што паспеў стварыць аўтар, — важкі ўнёсак у скарбніцу роднай мовы.

## «Кароткі» Букер

Стаў вядомы шорт-ліст намінантаў на сёлетнюю Букераўскую прэмію — самую прэстыжную ўзнагароду, якая прысуджаецца аўтарам найлепшых кніг на англійскай мове.

На Букераўскую прэмію 2022 года былі намінаваныя наступныя аўтары і іх кнігі:

NoViolet Bulawayo (Зімбабвэ), «Glory»;
Percival Everett (ЗША) « The Trees»;
Alan Garner (Вялікабрытанія), «Treacle Walker»;
Shehan Karunatilaka (Шры-Ланка), «The Seven Moons of Maali Almeida»;
Claire Keegan (Ірландыя), «Small Things Like These»;
Elizabeth Strout Струт (ЗША), «Oh William!».

З 2014 года Букераўская прэмія ўручаецца аўтарам найлепшых кніг, напісаных на англійскай мове, незалежна ад іх нацыянальнасці. Акрамя прэстыжу, лаўрэат можа разлічваць на фінансавую ўзнагароду ў памеры 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Пераможца сёлетняй прэміі будзе абвешчаны 17 кастрычніка падчас кніжнага кірмашу ў нямецкім Франкфурце.

## Міжнародная прэмія імя Льва Талстога

У Расіі заснавана новая літаратурная прэмія. Уручэнне Міжнароднай прэміі імя Л. М. Талстога адбудзецца ў адным з гарадоў Расіі. Прэмія будзе ўручацца штогод за вялікія заслугі ў дзейнасці па прадухіленні ядзернай пагрозы і спыненні гонкі ўзбраенняў, заявіў дырэктар Фонда Міжнароднай прэміі імя Л. М.Талстога Доку Заўгаеў. Паводле яго слоў, грашовы складнік прэміі будзе фармавацца з ахвяраванняў прадстаўнікоў бізнесу і ўсіх, хто неабыякавы да тых задач, рашэнням якіх садзейнічае прэмія.

Спашукальнікамі прэміі могуць быць асобныя грамадзяне, ініцыятыўныя групы, навучальныя ўстановы, грамадскія арганізацыі. Ініцыяваць яе могуць парламенты краін, урадавыя ўстановы, грамадскія арганізацыі, ВНУ ды іншыя навучальныя ўстановы. «З майго пункту гледжання гэтая прэмія дасць добры імпульс кансалідацыі сіл розных краін у пытаннях адстойвання міру», — падкрэсліў Доку Заўгаеў.

## Прэмія імя Максіма Рыльскага

Уручаны дыпломы лаўрэатам Прэміі Кабінета міністраў Украіны імя Максіма Рыльскага.

У намінацыі «За пераклад на ўкраінскую мову твораў выдатных замежных аўтараў» прэмія прысуджана Алене Брасаліній (літаратурны псеўданім — Олена О'Лір) за пераклад з англійскай мовы твора Уільяма Батлера «Тайная ружа».

У намінацыі «За пераклад твораў украінскіх класікаў і сучасных аўтараў на мовы народаў свету» прэмію прысудзілі Дзмітрыю Чысцяку і Ніколь Ларан-Катрыс за пераклад з украінскай мовы на французскую зборніка вершаў «Срэбная кроў» Паўла Маўчана.

Упершыню за шмат гадоў з-за вайны давялося змяніць традыцыю і ўручаць дыпломы ўзнагароды не ў Мемарыяльным музеі Максіма Рыльскага, а ў памяшканні Дзяржтэлерадыё, дзе ёсць бамбасховішча, а значыць, магчымасць выратавацца ад расійскіх ракет.

«Прэмія невыпадкова носіць імя Максіма Рыльскага, які з'яўляецца найбольш яркім прадстаўніком эліты ўкраінскай нацыі. Класік украінскай літаратуры быў бліскучым перакладчыкам, заснавальнікам сучаснай украінскай школы мастацкага перакладу. Яго пераклады з польскай, французскай, нямецкай, беларускай, рускай і стараславянскай моў узбагацілі ўкраінскую літаратуру. Усяго ён перакладаў з 13 моў свету. З моманту заснавання Прэміі імя Максіма Рыльскага яе лаўрэатамі сталі амаль 40 выбітных украінскіх перакладчыкаў, пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў», — адзначыў Багдан Чэрвак, намеснік кіраўніка Украінскага Камітэта дзяржтэлерадыё. Пісьменнік нарадзіўся ў 1895 годзе, памёр у 1964-м.



Прэмія імя М. Рыльскага была заснавана ў 1972 годзе і адноўлена ў 2013-м па ініцыятыве Дзяржтэлерадыё, дабрачыннай арганізацыі «Фонд "Ружы і вінаград" імя Максіма Рыльскага», Украінскага фонда культуры Украіны і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Штогод уручаецца ў дзвюх намінацыях. Памер грашовай часткі прэміі складае 20 тысяч грыўняў у кожнай намінацыі.

## Прэмія імя Вітальда Гамбровіча

Польская пісьменніца Барбара Возняк, аўтарка кнігі «Niejedno (Многія)», стала лаўрэаткай Літаратурнай прэміі імя Вітальда Гамбровіча, выдатнага польскага пісьменніка, драматурга, эсэіста (1904—1969)).

Узнагароду яна атрымала за празаічны дэбют. Рашэннем журы прэміі месячная рэзідэнцыя ў французскім Вансе, дзе Гамбровіч правёў апошнія гады жыцця, «дасталася» Матэвушу Пакуле.




Як падкрэслілі члены журы прэміі, у двух кнігах-пераможцах аб'яднаная постаць бацькі. У іх распавядаецца пра хваробы, пакуты, смерць і цяжкі догляд за хворымі. Паводле журы, Барбара Возняк у рамане «Niejedno» шчымліва і пранікнёна паказвае аповеды бацькі, які пакутуе на хваробу Альцгеймера, і сына, які яго апякуе. «У той час, калі мы лёгка абвяшчаем катастрафічны стан польскай мастацкай літаратуры, Барбара Возняк прапануе поўнаметражную гісторыю пра старасць, хваробу, клопаты, марнасць навуковай працы і стомленасць ад жыцця», — адзначыла член журы Зофія Кроль падчас уганаравання. На думку журы, аўтарка кнігі «Niejedno» ўдала пераплятае сваю гісторыю з думкамі галоўнага героя. «Штодзённае жыццё, пра якое дакладна распавядаецца, складаецца з драматычных і абсурдна смешных гадзін, праведзеных з бацькам, які пакутуе на хваробу Альцгеймера, паслядоўных бяссонных начэй, унутраных маналогаў, якія вядуцца ў вагоне цягніка, і, нарэшце, усё больш складаных дыялогаў са студэнтамі падчас заняткаў па этыцы для будучых дактароў», — адзначыла журы прэміі. Члены журы падкрэслілі, што кніга Возняк — гэта сямейны раман, які насычаны спасылкамі на філасофію, літаратуру і навуку.

Барбара Возняк, прымаючы ўзнагароду, нагадала пра цяжкую сітуацыю апекуноў над састарэлымі.

Літаратурная прэмія імя Вітольда Гамбровіча ўручаецца за дэбют, пад якім разумеецца першая ці другая кніга аўтара, напісаная мастацкай прозай на польскай мове. Пераможца, акрамя статуэткі, атрымлівае грашовую ўзнагароду (40 тысяч злотых) і бінокль — сімвал творчага светаспазнання і адсылку да апошніх гадоў жыцця пісьменніка, які, хварэючы, назіраў за людзьмі і іх жыццё ў бінокль.

Усе намінаваныя на прэмію аўтары атрымалі чэкі на 5 тысяч злотых.

## «Кіеўская кніга года»

Мэтай гэтай усеўкраінскай літаратурна-мастацкай прэміі з'яўляецца падтрымка творчых дзеячаў, ушанаванне аўтараў, выдавецтваў і прадстаўнікоў творчай грамадскасці, якія ўнеслі значны ўклад у папулярызацыю ўкраінскай кнігі, папулярызацыю творчасці, усталяванне высокіх мастацкіх стандартаў у нацыянальным пісьменстве, стварэнне ўмоў для творчага росту.

Экспертная рада вызначыла сёлетніх лаўрэатаў Усеўкраінскай літаратурна-мастацкай прэміі «Кіеўская кніга года».

У намінацыі «Дзіцячая літаратура» ім стаў акадэмік, пісьменнік Аляксандр Бакуменка, у намінацыі «Мастацкая літаратура» — народны артыст Украіны Андрэй Дземідзенка, у намінацыі «Гістарычная літаратура» — заслужаная артыстка Украіны, пісьменніца Раіса Іванчанка, у намінацыі «Навуковая літаратура» — заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Украіны Васіль Кушэрэц, у намінацыі «Літаратура для юнацтва» — пісьменнік, грамадскі дзеяч Аляксандр Герасіменка, у намінацыі «Літаратура ў галіне тэатральнага мастацтва» — заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны, пісьменнік Васіль Нявconfigуолаў, у намінацыі «Літаратура ў галіне публіцыстыкі» — пісьменніца Святлана Чорная.

## Нацыянальныя чытанні ў Польшчы

ХІ Нацыянальныя чытанні, прысвечаныя творчасці Адама Міцкевіча, прайшлі ў Польшчы.

«Адам Міцкевіч і эпоха рамантызму выбудавалі настрой палякаў на наступныя стагоддзі. "За нашу і вашу свабоду" — гэта рамантычны лозунг, які дзейнічае да сённяшняга дня, калі мы глядзім на тое, што адбываецца за нашай усходняй мяжой, ва Украіне», — адзначыў, адкрываючы Нацыянальныя чытанні, прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда.

У сувязі з тым, што сёлетнія Нацыянальныя чытанні адбыліся ў Год польскага рамантызму, устаноўлены Сеймам Рэспублікі Польшча з нагоды 200-годдзя першага выдання «Балад і рамансаў» Адама Міцкевіча, менавіта класічны дэбютны цыкл вершаў паэта стаў героем сёлетняй акцыі. Сёлетнія польскія Нацыянальныя чытанні праходзілі не толькі ў Польшчы, але таксама, як паведаміла першая лэдзі Агата Корнхаўзэр-Дуда, ажно ў 250 месцах за межамі Польшчы (у тым ліку ў Кітаі, ЗША, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Калумбіі, Марока і ў больш за 70 месцаў у ахопленай вайной Украіне).

Прэзідэнт Дуда і першая лэдзі першымі прачыталі ўрывак з кнігі Адама Міцкевіча «Балады і рамансы». Распачынаючы акцыю, прэзідэнт сказаў, што эпоха рамантызму мае асаблівае значэнне для Польшчы і палякаў: «Рамантызм, асабліва Міцкевіча, нарадзіўся, калі Польшча была несвабоднай, не мела сваёй дзяржаўнасці… Пачуццё неабходнасці свабоды і яе здабыцця, пачуццё непаразумення ў адносінах паміж Польшчай і іншымі дзяржавамі і народамі, унутраная ідэалізацыя радзімы <…> мела ў нашай краіне асаблівае вымярэнне і знайшло выражэнне ў паэзіі Адама Міцкевіча». «Міцкевіч, — сказаў Дуда, — быў грамадскім паэтам. Сёння ён наш паэт, нашы суседзі — літоўцы, беларусы, украінцы. Мы прасякнуты адным духам».

Фота Przemysław Keler



Прэзідэнт і першая лэдзі Польшчы

Анджэй Дуда абвясціў, што ў наступным годзе падчас Нацыянальных чытанняў будзе агучвацца твор Элізы Ажэшкі «Над Нёманам».

"Над Нёманам" — гэта не толькі паказ польскай душы, надзвычайнае апісанне польскай прыроды, польскага побыту, тых часоў пасля Студзеньскага паўстання, але і ў пэўным сэнсе палеміка з рамантычным духам — наколькі гэты дух служыць і наколькі гэта ўмешваецца ў нашу гісторыю», — так ахарактарызаваў чытанні наступнага года Анджэй Дуда.

Жыццё і дзейнасць Элізы Ажэшка (1841—1910) цесна звязаныя з Беларуссю. Яна жыла спачатку ў ваколіцах Гродна-Гродні, а пасля ў самім горадзе, дзе знаходзіцца яе Дом-музей. У час паўстання 1863 года была сувязной паўстанцкага атрада, была асабіста знаёма з Францішкам Багушэвічам. Водгулле паўстання адчуваецца і ў згаданым рамане «Над Нёманам», напісаным у 1887 годзе ў Гродне. У ім узнятыя вострыя праблемы, якія не страцілі актуальнасці і сёння: уменне чалавека жыць у згодзе з прыродай і са сваім сумленнем, маральная адказнасць за свае дзеянні і ўчынкі, за вынікі працы на зямлі. Асаблівае месца займае ў кнізе тэма кахання, востра дыскутуюцца праблемы пакаленняў, прывязанасці да роднага краю і вернасці бацькоўскаму дому.